**Аляксандар Лукашук. Вянок Свабоды.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе.) — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2022. 200 с.: іл.

Бібліятэкар Свабоды
*Аляксандар Лукашук*

Карэктар *Вінцук Вячорка*

Бібліятэкар Свабоды Аляксандар Лукашук прэзэнтуе 90 выданьняў Беларускай службы РСЭ/РС, якія пабачылі сьвет у 2002–2022 гг., уключна з прадмовамі.


FOL

ISBN 978-0-929849-98-0

# ЗЬМЕСТ

Каб. *Прадмова* ........ 9

**1. Каб гаварыць**

Першыя ........ 13
Мова сэрафімаў ........ 15
Вернасьць перакладу ........ 17

**2. Каб ганарыцца**

З Быкавым ........ 21
Verba et scripta ........ 23
Чуць, пачуць ........ 25
Што пачынаецца, калі канчаецца ўсё ........ 27
Песьня пра зубра ........ 29
Чалавек вясны ........ 31

**3. Каб вытрымаць**

На экзамэне па гісторыі. 2111 год ........ 35
Яго віна ........ 37
Быццам ........ 39
Ювэнал, удакладнены ........ 41
«Адгрызу ўласную руку» ........ 43
Юркойцеў палон ........ 45
Турма мае пачатак, але ня мае канца ........ 47
Ганна Арэнт у Стоўпцах ........ 49

**4. Каб не здавацца**

Жывыя ў Курапатах ........ 53
Безразважнасьць і рашучасьць ........ 55

Навагодняя малітва па-беларуску ............57
На жаль, на шчасьце ............59
Галасы пад сярпом Тваім ............61
Кожны аркуш белы, кожны радок чырвоны ............63
Колискова/Калыханка ............65

**5. Каб ведаць**

Дзякуй праз сто гадоў ............69
Бліскавіца ў дыямэнце ............71
Рэстаўратары выраю ............73
101-ы адрас ............75
Ураган ад матылька ............77
І ўсё ж ............79
Сучасьнікі ............81
Прыходзяць туды, дзе чакаюць ............83
Лесьвіца ў мінулае, якая вядзе ўгару ............85
Менскі палімпсэст ............87
Горад веры ............89

**6. Каб верыць**

MCMXCI ............93
На крылах ............95
Апошні мірны год ............97
У сьне ............99
Рэцэпт вечнай улады ............101
96 ............103

**7. Каб успамінаць**

Яе азымут ............107
На плошчы бяз слоў ............109
Дачка Сталіна выбрала яе голас ............111

Аватар М ........................................ 113
Курс свабоды ........................................ 115

**8. Каб не забыцца**

Вялікая падарожная кніжка ........................................ 119
Новая зямля ........................................ 121
Археалёгія Беларусі ........................................ 123

**9. Каб зразумець**

Звон Вострае Брамы ........................................ 127
Як дубавець? ........................................ 129
Без акцэнту ........................................ 131
Quis es? Quis sum? ........................................ 133
Без варажбы ........................................ 135
Імя героя ........................................ 137
Неверагодная імавернасьць 2020-га ........................................ 139
Бо ........................................ 141

**10. Каб цешыцца**

Афіцыйнае папярэджаньне ........................................ 145
Як Вінцэсь М. разбурыў Савецкі С. ........................................ 147
Любіць вушамі ........................................ 149
Хор бардаў ........................................ 151
Дуэт для аднаго ........................................ 153
Страла Адысэя ........................................ 155
Usie vyzdaraviejem ........................................ 157
Амаль ........................................ 159
Беражыце пальцы ........................................ 161
Жыве musculus zygomaticus major! ........................................ 163
Эвангельле ад Яна ........................................ 165
Страх навыварат ........................................ 167

### 11. Каб ня ўмерці

Слова слова ........................................................ 171
Закаханы ў мову ........................................................ 173
Гамлет ........................................................ 175
Супрацьракетная абарона ........................................................ 177

### 12. Каб любіць

Энцыкляпэдыя любові ........................................................ 181

### 13. Каб сустракацца

Адрас без двукосься ........................................................ 185
Патрэба душы ........................................................ 187

### 14. Каб чытаць

Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе. 2002-2022 ....... 190
Бібліятэка, якая адкрыта заўсёды ........................................................ 197

Пра аўтара ........................................................ 198
Summary ........................................................ 199

# Каб

Каб гаварыць,

Каб ганарыцца,

Каб вытрымаць,

Каб не здавацца,

Каб ведаць,

Каб верыць,

Каб успамінаць,

Каб не забыць,

Каб зразумець,

Каб цешыцца,

Каб ня ўмерці,

Каб любіць,

Каб сустракацца,

Каб чытаць

На свабодзе,

створана гэтая бібліятэка.




**Гаворыць Радыё Вызваленьне...**

Рэпрынтнае выданьне. 2020 (PDF)

Першае застаецца першым, нават калі тыражуецца і перавыдаецца. Паўтор першага зборніка радыёперадачаў «з вольнага сьвету для суродзічаў», які «стараньнем Беларускае Рэдакцыі Радыя Вызваленьне» выйшаў у Мюнхэне у 1956 годзе. Прамоўленае застаецца.

# Першыя

Радыё было першым глябальным мэдыя XX стагодзьдзя і першым полем бітвы ідэяў свабоды і таталітарызму — за сьвет і за Беларусь. І па-беларуску.

Кнігу «Гаворыць Радыё Вызваленьне...» выдалі сваім коштам супрацоўнікі першага складу рэдакцыі ў 1956 годзе. Людзі слова, яны шанавалі скарынаўскую дыхтоўнасьць друку, і адабраныя імі артыкулы, фэльетоны, камэнтары за амаль тысячу першых дзён працы сталі першым такім зборнікам сярод усіх нацыянальных рэдакцыяў Radio Liberation.

Адзіным друкаваным зборам «скрыптаў», як называліся падрыхтаваныя для чытаньня перад мікрафонам тэксты, кніга «Гаворыць Радыё Вызваленьне...» засталася надоўга, але не назаўсёды.

У 2002 годзе выйшла першая кніга «Бібліятэкі Свабоды», якая налічвае ўжо больш выданьняў, чым мінула гадоў з часу першага этэру 20 траўня 1954 году. Прынцып «Бібліятэкі» сфармуляваны ў падзагалоўку той самай першай кніжкі — гэта «Выбраныя матарыялы Беларускае Рэдакцыі», як і пазначаецца цяпер на вокладках усіх новых выданьняў.

Шмат зьмянілася за мінулыя дзесяцігодзьдзі на Радыё — ад імя самой арганізацыі (з 1959 году — Радыё Свабода) да назваў і межаў краінаў.

Ня менш застаецца бязь зьменаў, як апошні радок, якім сканчаецца самы першы гістарычны зборнік Беларускае рэдакцыі:

«АБЯЦАЕ СЬВЕТУ СВАБОДУ».




## Верш на свабоду.

2002 (PDF)

Нельга быць беларусам, жыць у Празе і не выдаваць кніг. Першая кніга «Бібліятэкі Свабоды» пачалася ў першы дзень новага тысячагодзьдзя і не магла ня быць кнігай паэзіі — Беларусь сапраўды краіна паэтаў. Укладальніца **Валянціна Аксак** склала кнігу з 365 твораў, якія гучалі ў этэры штодня ўвесь 2001 год. Камэртон «Бібліятэкі».

## Мова сэрафімаў

Гэтую кнігу можна чытаць пад музыку — рэкамэндуем Джузэпэ Вэрдзі, арыю з опэры «Набука», — яна гучала на хвалях Свабоды ўвесь 2001 год: «Ты пяеш — і з табой маё сэрца пяе, о Свабода!..»

365 вершаў, новы штодня — неймаверная авантура, магчымая толькі ў краіне паэтаў.

Гэта была народная перадача: паглядзіце на геаграфію, на гарады, мястэчкі і вёскі, дзе думалі пра свабоду, марылі, шукалі рыфмы і рытмы.

І праграма, і кніга былі б немагчымыя без Валянціны Аксак, якая чытала, сустракала, запісвала паэтаў свабоды, і калі перадача скончылася, яна нарэшце напісала свой верш — эпілёг, які можа быць эпіграфам:

*Свабода*
*як сэрафім з шасьцю крыламі:*
*двума ён*
*вочы свае захінае, каб Бога ня бачыць,*
*бо ня варты небнае звышнасьці;*
*яшчэ двума шчытна*
*ногі свае атуляе,*
*каб Бог ня бачыў*
*ягонай зямное існасьці;*
*трэцяю ж параю крылаў*
*увесь час трапеча над намі,*
*утвараючы мройлівы дым,*
*праз які мы яго*
*ніколі ня бачым.*

Але ў сэрцы шчасьлівым заўсёды чуем гэтую мову, на якой Бог гаворыць з чалавекам, а чалавек з Богам.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.**
2004 (PDF)

Выбранае з кнігі «Верш на свабоду» па-беларуску і па-ангельску. Бліскучыя пераклады вялікай брытанкі **Веры Рыч**, якой дапамагалі выкшталцоныя беларускі Валянціна Аксак і Аляксандра Макавік.

# Вернасьць перакладу

Свабода заўсёды гаворыць на мове перакладу:
з памяці на веру,
зь веры на верш,
зь верша на песьню,
з песьні на танец,
з танца на ложак,
з ложка на нараджэньне,
з нараджэньня на жыцьцё,
з жыцьця на памяць,
з памяці на свабоду,
бо гэта адзіная мова, якая не патрабуе перакладу.

- Быкаў на Свабодзе
- Сьвятлана Алексіевіч на Свабодзе
- 100 цытатаў
- Каліноўскі на Свабодзе
- Станіслаў Шушкевіч на Свабодзе
- Алесь Бяляцкі на Свабодзе




**Быкаў на Свабодзе.**

2004, 2005 (PDF)

Брама скарбаў, адкрытая для ўсіх, хто любіць Васіля Быкава.

Інтэрвію, выступы беларускага клясыка на Радыё Свабода ў 1991–2003 гг. Укладальнік **Сяргей Навумчык** не спыняў пошуку ў архівах Свабоды пасьля выхаду кнігі, і другое выданьне ў 2005 годзе павялічылася на 126 старонак.

У 2004 годзе ў «Бібліятэцы» таксама выйшаў аўдыёдыск «Быкаў на Свабодзе», у 2010 — аўдыёкніга «Васіль Быкаў. Доўгая дарога дадому».

# З Быкавым

...Быкаў сьмяецца ў трубку і кажа: «Ну, калі я вам яшчэ не надакучыў, калі ласка — прышлю». Праз пару дзён пошта прыносіць цяжкую капэрту з новай прыпавесьцю, у лісьце абавязковая прыпіска: «Перадайце прывітаньне вашым мілым дзяўчатам і хлопцам, якія так хораша чытаюць...»

У 1965-м супрацоўнікі радыё выдалі ў Мюнхэне аповесьць «Мёртвым не баліць». І вось мы зноў выдаём кнігу Быкава.

Шмат гадоў нашыя слухачы першыя знаёміліся зь яго новымі творамі, а таксама меркаваньнямі, ацэнкамі й прагнозамі. Пераважна гэта былі невясёлыя прагнозы, але Быкаў не пагаджаўся, што гэта пэсымізм. Сьвечка надзеі ніколі ня гасла ў ягоных выступах. І ў рэдакцыйных сьценах ён запомніўся заўсёды з прыязнай цёплай усьмешкай, — мы спадзяёмся, ён пачуваўся на «Свабодзе» добра і лёгка, сярод сяброў.

Апошнія месяцы мы мелі шчасьце сустракацца часьцей — у прагулках па Празе, на імпрэзах, у вулічных кавярнях, дома. І ў шпіталі. За тоўстымі сьценамі «Свабода» лавілася дрэнна, мы прынесьлі яму магнітафон, і ён атрымліваў навіны зь Беларусі ў запісе. Быкаў слухаў «Свабоду» даўно, але пасьля таго, як жыцьцё ў Менску стала нясьцерпным і пачаўся апошні вандроўны пэрыяд ягонай творчасьці, ён не расставаўся з караткахвалевым прымачом.

Мы рабілі праграму, ведаючы, што яе будзе слухаць Быкаў.

Мы так і будзем рабіць надалей, Васіль Уладзімеравіч.







**Сьвятлана Алексіевіч на Свабодзе.**
2015 (PDF)
**Светлана Алексиевич на Свабодзе.**
2016 (PDF)

Першая кніга з такой назвай выйшла накладам адзін асобнік на пачатку сьнежня 2015 году і пасьпела трапіць у Стакгольм да Нобэлеўскай цырымоніі. У масавае выданьне праз пару месяцаў укладальнік **Сяргей Навумчык** дадаў Нобэлеўскую лекцыю і рэпартажы са Швэцыі. Пад адной вокладкай сабраныя матэрыялы, якія больш чым паўтара дзесяцігодзьдзя гучалі на хвалях Радыё Свабода — інтэрвію, дыскусіі, рэпартажы пра сустрэчы з чытачамі ды іншыя тэксты пра першую ў Беларусі ляўрэатку Нобэлеўскай прэміі.

## Verba et scripta

Сьвятлана Алексіевіч спачатку была супраць кнігі з этэру: «Гаварэньне і тэкст — гэта розныя рэчы. Трэба шмат працаваць над тэкстам гаварэньня, каб ён быў роўны аўтару».

Так яна адказала на ідэю сабраць пад адной вокладкай яе словы і словы пра яе, якія гучалі на Свабодзе.

Гэтая засьцярога тычыцца літаратуры. Тэкст падчас нараджэньня і ёсьць сам аўтар, і ў гэтым сэнсе Алексіевіч не адрозьніваецца ад Флябэра, Чэхава ці Быкава. Адрозьніваецца яе мэтад — слухаць, небясьпечны, як усё геніяльнае, якое выглядае простым. Аўтар робіцца нябачным і ўсюдыісным, чыстай формай. Як паказвае досьвед яго пачынальніка Алеся Адамовіча, гэты мэтад лепш за ўсё працуе на мяжы вайны і міру — вайны і міру з часам, памяцьцю, самім сабой.

Сьвятлана перагледзела сабраныя разам рэпартажы і інтэрвію — «зь дзіўным пачуцьцём, быццам там гаворка пра іншага чалавека, які жыве ў іншай краіне. Ня я пісала». Але думку наконт друкаваньня зьмяніла зь іншай прычыны: «Не ўва мне справа, а ў тым, што застанецца дакумэнт, дакумэнт часу, які чым далей, тым болей будзе цікавым...»

У Нобэлеўскай лекцыі Алексіевіч назвала сябе «чалавекам-вухам». Чытачы гэтай кнігі пабачаць, што ня ў меншай ступені яна — чалавек-голас.

Голас глыбокі, жывы, упарты, нязгодны, жорсткі, балючы — іншы, верны толькі сабе і свайму таленту. Голас сусьветнага дыяпазону і нобэлеўскай клясы.

Наш голас.




**Сьвятлана Алексіевіч.**
**100 цытатаў на Свабодзе.**
2019 (PDF)

Гэтую кнігу складаюць выбраныя фрагмэнты вусных выказваньняў набэлісткі. Гэта адзіная кніга «Бібліятэкі», якая выйшла адразу на чатырох мовах: па-ангельску, па-беларуску, па-расейску і па-ўкраінску. Укладальнік **Сяргей Навумчык** выбраў з мноства інтэрвію сто завершаных ацэнак, высноваў, назіраньняў, якія паказалі пісьменьніцу як яркага, глыбокага і афарыстычнага філёзафа. Можна ня толькі пазнаёміцца з думкамі пісьменьніцы, але падцягнуць сваё валоданьне замежнымі мовамі — двайны плён!

# Чуць, пачуць

У Нобэлеўскай лекцыі Сьвятлана Алексіевіч назвала сябе «чалавекам-вухам». Яе чырвоная ўтопія стала споведзьдзю пакаленьняў, упершыню так цярпліва выслуханых і так поўна пачутых.

У гэтай кнізе — голас самой Сьвятланы Алексіевіч. Так, як ён гучаў на Свабодзе ў сваім гістарычным часе, сваім кантэксьце, без паправак, тлумачэньняў і агаворак.

Пачуць яго — цяпер наша праца.




**Каліноўскі на Свабодзе.**
2020 (PDF)

Тэма Кастуся Каліноўскага на Радыё Свабода за 20 гадоў з рэдкіх кропель ператварылася ў магутную раку. Гэтаму спрыялі малыя і вялікія падзеі вакол імя героя і ягоных паплечнікаў, рэакцыя ўладаў, пошукі месца Каліноўскага і ягонага паўстаньня ў беларускай гісторыі і містэрыя новага пахаваньня. Навіны, блогі, інтэрвію, дыскусіі, архіўныя знаходкі, канцэптуальныя эсэ — усё гэта ў руках укладальніка і рэдактара **Сяргея Дубаўца** склалася ў цуд вяртаньня — цяпер і назаўсёды.

## Што пачынаецца, калі канчаецца ўсё

Здымуць зь пятлі, скінуць у яму, заліюць вапнай, засыплюць жвірам, здратуюць, забудуць, успомняць, паставяць крыж, зьнясуць, зноў забудуць і ня схочуць успамінаць, але не дадуць рады, калі ён паўстане. І тады ачуняюць, жахнуцца, заплачуць, памоляцца, ушануюць, усьцешацца, каб ужо не забыцца ніколі.

А сам ён — ён стане сваёй краінай.

Намі.




**Станіслаў Шушкевіч на Свабодзе.**
2022 (PDF)

Чалавек, які першы ўзначаліў незалежную Беларусь і паставіў подпіс пад Белавескім пагадненьнем аб ліквідацыі Савецкага Саюзу, ня мог ня быць на Радыё Свабода. Сын ворага народу, таленавіты фізык, выдатны выкладчык, вынесены на авансцэну сусьветнае палітыкі сілай гісторыі, паўстае перш за ўсё як шчыры і інтэлігентны беларус, чалавек прынцыпаў, чужы паноўнай уладзе і свой для прыхільнікаў дэмакратыі і свабоды. Укладальнік **Сяргей Навумчык** быў дэпутатам Вярхоўнага Савету Беларусі разам з героем кнігі, якую рэдагаваў.

## Песьня пра зубра

Пушча шуміць.
Загоншчыкі шчэмяць.
Зграя шчэрыць іклы.
Арлан кружляе.
Статак чакае.
Праламіў гушчар.
Праклаў шлях.
Вывеў.
Сышоў.
Застаецца крыўда: магло быць іначай.
Застаецца ўдзячнасьць: магло быць іначай.
Толькі пушча ведае.




**Алесь Бяляцкі на Свабодзе.**
2022 (PDF)

Гэта ня першая кніга «Бібліятэкі», герой якой сядзіць у турме ў час яе выхаду. І ня першая кніга зь імем Нобэлеўскага ляўрэата на вокладцы. І нават ня першая, якая расказвае менавіта пра гэтага даўняга сябра і героя Свабоды. Але яна заўсёды будзе першай, бо права на свабоду, справа жыцьця Алеся, заўсёды ёсьць першасным. Укладаньне і рэдактура **Сяргея Навумчыка.**

## Чалавек вясны

Ў краіне нашай, дзе мы не ўміраем,
Хоць ў турмы вядуць свабоды дарогі,
Мы не самотныя — Алеся маем
І сілу і славу яго перамогі.

- Адзін дзень палітвязьня
- Справа Бяляцкага
- Хто ўзарваў менскае мэтро?
- Турма і здароўе
- 108 дзён і начэй
  у засьценках КДБ
- Тантамарэскі
- Турма, мужчына і жанчына
- Забойства ў цэнтры Эўропы







**Адзін дзень палітвязьня. (1996–2008).**
2009 (PDF)
**Адзін дзень палітвязьня. 2009–2011.**
2011 (PDF)

Гэтыя дзьве кнігі маюць адзін назоў і адрозьніваюцца толькі турэмным часам і імёнамі людзей за кратамі. Сярод герояў — паэт, мастак, геадэзіст, старшыня калгасу, лекар, прэм'ер-міністар, пасол, палітыкі, грамадзкія актывісты, праваабаронцы, прадпрымальнікі, дэпутаты, журналісты, міністры. Укладальніца і рэдактарка **Ганна Соўсь** сабрала усё жывое, што супраціўлялася дыктатуры і плаціла за гэта сваёй свабодай, і хор сьведчаньняў з-за кратаў склаўся ў песьню свабоды.

## На экзамэне па гісторыі. 2111 год

— *Пра што кніга «Адзін дзень палітвязьня»?*

— Пра свабоду і яе герояў ці ахвяраў, каму як.

— *Як яны самі зваліся?*

— Людзьмі.

— *За што іх пазбавілі волі?*

— За праўду.

— *Чаму іх пазбавілі волі?*

— Каб запалохаць астатніх.

— *Чаму былі пазбаўленыя менавіта яны?*

— Бо не баяліся.

— *Колькі іх?*

— У кнізе — дзясяткі. Былі за кратамі — сотні.

— *Як доўга?*

— Героі «Аднаго дня» — больш за 30 000 дзён і начэй.

— *Што яны страцілі?*

— Свабоду быць з блізкімі, рабіць сваю справу, падарожнічаць, спрачацца, гараваць, сьвяткаваць — жыць як хацелі б.

— *Чаго яны дамагліся?*

— Нянавісьці ворагаў. Пагарды ўлады. Абыякавасьці бальшыні суайчыньнікаў...

— *І гэта ўсё?*

— Яшчэ — павагі паплечнікаў, захапленьня сяброў, веры моладзі. Міжнароднай увагі, салідарнасьці і дапамогі. Імяннога радка ў гісторыі краіны.

— *І ўсё ж — ці варта было?*

...А гэтае пытаньне ўжо не да іх.




**Валер Каліноўскі.**
**Справа Бяляцкага.**
2012 (PDF)

Гэтая кніга ня столькі пра крымінальную справу № 11081100188, паводле якой у 2011 годзе Алесь Бяляцкі быў асуджаны на 4,5 года турмы, колькі пра справу ягонага жыцьця — абарону грамадзянскіх і культурных правоў чалавека. Аўтар правёў дзясяткі гадзінаў на судовым пасяджэньні, сабраў вялізную колькасьць сьведчаньняў, дакумэнтаў, каб стварыць вобраз праваабаронцы ў наступальным руху. Хочаце ўведаць, як становяцца Нобэлеўскімі ляўрэатамі, — вычарпальная інструкцыя ў «Справе Бяляцкага».

# Яго віна

«Я заўсёды любіў глядзець на неба...»

Гэта радок зь ліста героя з турмы на свабоду.

Першым чытачом гэтых словаў быў турэмны цэнзар.

Лісты пісаліся ад рукі — і ня толькі таму, што за кратамі не было кампутара. Ён ня надта стараўся, каб яны былі чытэльныя — наадварот, імкнуўся зрабіць іх неразборлівымі для чужога вока.

Забаронена пісаць пра ўнутраныя парадкі (як жывеш), прозьвішчы (хто мае ўладу над тваім жыцьцём), дзяржаўныя таямніцы (колькі ахоўнікаў на аднаго зэка). Забароны глядзець на неба няма.

«Так шмат у ім колераў і адценьняў неперадавальных...»

Паэзія не абавязкова павінна быць з рыфмамі. Як і судовы прысуд не абавязкова вызначае віну, а чалавек у турме — не абавязкова злачынец.

«Жалезныя дзьверы і ваконныя краты густа захіснутыя жалезнымі гарызантальнымі палоскамі, якія тут ласкава называюць „расьнічкамі“, за імі ў шчыліны праглядаецца расьпілаванае бяздоннае верасьнёўскае неба і белыя ватныя аблокі. Колькі разоў ужо, стоячы ля вакна і ўглядаючыся ў заманлівую сінечу неба, я паўтараў сам сабе: „Вось воблака, сяду і ў сьвет палячу!“»

Хто мае права на беларускае неба над беларускай зямлёй?

«Ну, а неба ж над намі — вольнае!»

Усё сваё жыцьцё ён стараецца зраўняць у правах зямлю зь небам.

«Вось і зараз гляджу...»

Сапраўдная віна Алеся Бяляцкага.




**Алег Грузьдзіловіч.**
**Хто ўзарваў менскае мэтро?**
2013 (PDF)

Гэтую кнігу напісаў палітвязень Алег Грузьдзіловіч — але за восем гадоў да таго, як сам быў арыштаваны, асуджаны і зьняволены. Гэта аналіз судовага працэсу над абвінавачанымі ў тэракце ў менскім мэтро, дзе 11 красавіка 2011 году загінулі 15 чалавек. Калі кніга выйшла, пракуратура вынесла спэцыяльнае папярэджаньне, дзе абвінавачвала аўтара і «Бібліятэку» ў падрыве даверу да судовай сыстэмы Беларусі. Як аўтару ўдалося падарваць тое, чаго няма? Адказ на гэтую загадку знойдзеце на старонках кнігі.

## Быццам

У тэракце ў менскім мэтро загінулі пятнаццаць чалавек.

Незваротная страта, непапраўнае гора, нязбыўны боль. Двух абвінавачаных расстралялі. Лягчэй нікому ня стала — грамадзтва раскалолася, як рака ў крыгаход.

Гэта быў самы адкрыты і самы падрабязны суд такога маштабу за ўсю гісторыю Беларусі, зь беспрэцэдэнтным удзелам пацярпелых, замежных і айчынных экспэртаў, апэратыўнымі рэпартажамі і такой колькасьцю камэнтароў у інтэрнэце, якая засьведчыла, што свабода грамадзкай думкі існуе, нягледзячы на ўсе забароны.

Суду не паверылі, і гэта расплата за гады няспынных арыштаў быццам за лаянку, быццам за супрацiў, быццам за малую патрэбу, быццам за мітынг, быццам за падаткі, быццам за што заўгодна.

Калі няма даверу, нічога нельга выключыць. Калі нічога нельга выключыць, усё можна паставіць пад сумнеў. Калі ўсё можна паставіць пад сумнеў, няма мяжы паміж чорным і белым. Калі няма мяжы паміж чорным і белым, дабра не адрозьніць ад зла. Калі дабра не адрозьніць ад зла, зьнікае розьніца паміж законам і загадам. Калі зьнікае розьніца паміж законам і загадам, справядлівасьці не шукаюць у судзе. Калі справядлівасьці не шукаюць у судзе, узрываюць мэтро.

Не абавязкова ўзрываюць — але вінаватых шукаюць заўсёды пад знакам «быццам».

Гэтая кніга — пра розьніцу паміж «быццам» і «насамрэч».

Бо розьніца ёсьць.




**Юры Бандажэўскі.**
**Турма і здароўе.**
2013 (PDF)

Былы палітвязень, рэктар Гомельскага мэдычнага ўнівэрсытэту, доктар мэдыцыны Юры Бандажэўскі напісаў кнігу на падставе ўласнага турэмнага досьведу. Спачатку парады гучалі ў перадачы «Свабода ў турмах», а потым склалі кнігу, дзе сыстэматызуюцца фізычныя практыкаваньні і псыхалягічныя практыкі, якія дапамаглі аўтару перажыць блізкія да сьмерці сытуацыі, выйсьці здаровым і працягнуць піянэрную распрацоўку чарнобыльскай тэматыкі, якая назаўсёды з намі.

# Ювэнал, удакладнены

За першы месяц арышту ў 1999-м Юры Бандажэўскі страціў 20 кіляў вагі. За шэсьць гадоў за кратамі тры разы быў на мяжы жыцьця і сьмерці і перанёс тры апэрацыі. Дадому вярнуўся фізычна і духоўна больш моцным, чым раней. І з большым разуменьнем, што такое мэдыцына, здароўе і чалавек.

Orandum est ut sit mens sana in corpore sano — дзьве тысячы гадоў таму рымскі паэт-этык Ювэнал вучыў маліцца за здаровы розум у здаровым целе:

*Бо ня цела, а дух на пачатку ўсяго:*
*Моцы духу прасі, якому ня страшная сьмерць,*
*Які не зважае на колькасьць гадоў,*
*Прыродай адмераных,*
*І стойкі ў выпрабаваньнях любых,*
*Ня гневіцца і ня прагне нічога,*
*І ставіць пакуты Геркулесавай працы вышэй*
*За Вэнэру, фэсты й пярыны Сарданапала.*

Усё адносна, і параўнаньне з асырыйскім царом, які зьбяёдаў сваю ўладу ў раскошы і пацехах плоці, не такое ўжо й недарэчнае для жыцьця некаторых зэкаў да турмы. Але пасьля...

Гэтая кніга — інструкцыя для духу, які ня ведае страху сьмерці і прагне свабоды.

Нічога не зьмянілася, усё ўдакладнілася.




**Анатоль Лябедзька.**
**108 дзён і начэй у засьценках КДБ.**
2013 (PDF)

Дзёньнік палітычнага закладніка — такі падзагаловак даў сваім успамінам палітык Анатоль Лябедзька пра пекла, якім стала для палітычных вязьняў турма КГБ у цэнтры Менску адразу пасьля прэзыдэнцкіх выбараў 2010 году.

## «Адгрызу ўласную руку»

З чаго робяцца турэмныя ўспаміны?

З начной цішы, якую разрывае званок і грукат, а потым удары молата ў дзьверы: адчыняйце!

Зь нематы мабільнага апэратара і адключанага тэлефону.

Са спакойнага голасу жонкі «Страляйце!», якім яна адказвае на пагрозу адкрыць агонь.

З кайданкоў, жалезных нараў, разьдзяваньня дагала, галадоўкі, расьцяжак, пагрозаў, угавораў, я хутчэй адгрызу ўласную руку, чым адмоўлюся, рыку рукі назад, лістоў, рову галаву ўніз, крыкаў, лістоў, парашы, 100 адцісканьняў ад падлогі, вершаў, 580 адцісканьняў ад бэтону, Дыкенса, 1200 адцісканьняў ад зямлі, журавоў, якія лятуць і курлычуць недзе над пеклам амэрыканкі...

З усяго, што трэба, каб напісаць першы радок кнігі:

«Калі б мне давялося паўтарыць усё нанова, я не вагаўся б ні імгненьня».




**Сяргей Дубавец.**
**Тантамарэскі.**
2019 (PDF)

Хтосьці прачытае гэтую кнігу як гісторыю сучаснай Беларусі, хтосьці — як даведнік у судаводзтве, хтосьці — як дэтэктыўны раман. Высновы прывялі аўтара да філязофскіх адкрыцьцяў, а журы прэміі Ежы Гедройця да рашэньня адзначыць гэтую кнігу «Бібліятэкі» найвышэйшай літаратурнай узнагародай Беларусі.
А прадмова стала песьняй Лявона Вольскага «Палон».
https://www.svaboda.org/a/31323889.html

# Юркойцеў палон

Ты прачынаесься ранкам, а неба няма,
Ты выходзіш з дому, а дарогі няма,
Ты ўдыхаеш на поўныя грудзі, а паветра няма,
Ёсьць турма.

Ня ты натыкаесься на сьцяну, а яна на цябе,
Ня ты падаеш у бездань, а яна ў цябе,
Ня ты адключаеш сьвятло, а яно цябе,
Як на вайне.

Што застанецца, калі попел пакрые ўсё,
Што застанецца, калі вецер разьвее ўсё,
Што застанецца, калі скончыцца ўсё,
Толькі любоў.




**Алена Струвэ.**
**Турма, мужчына і жанчына.**
2018 (PDF)

Кніга мае падзагаловак «Як сядзяць у сучаснай Беларусі» і прысьвечаная не палітычным вязьням, а агульнаму жыцьцю за кратамі. Яна нарадзілася зь радыёперадачы «Свабода ў турмах», якую ў 2011–2017 гг. вяла Алена Струвэ. Ужо тады было справядлівым адно назіраньне: калі сабраць усіх зьняволеных у Беларусі разам, атрымаецца невялікі горад са сваімі традыцыямі і парадкамі. Сёньня гэты горад павялічыўся да памераў краіны.

## Турма мае пачатак, але ня мае канца

— У Беларусі ня могуць сядзець, як у Швэцыі, — кажа Зьміцер Дашкевіч.

Палітвязень Дашкевіч, які прайшоў, здаецца, усе турмы і калёніі ад Горадні да Мазыра, зьведаў усе формы пакараньня, пра турэмную рэформу сказаў так:

— Адну трацiну вызваліць адразу, бо сядзяць ні за што, другой трацiне даць па срацы і адправіць да мамкі, а рэшту — сапраўдных злачынцаў — трымаць за кратамі.

Турма — натуральная частка любой дзяржавы. Кодэкс Хамурапі, якому амаль чатыры тысячы гадоў, і крымінальны кодэкс Рэспублікі Беларусь выконваюць адну задачу — кажуць, што можна рабіць, чаго нельга.

Справа ў тым, што́ і як кажуць. Пэнітэнцыярная сыстэма Беларусі нагадвае машыну часу, якая працуе стацыянарна: тут паняцьці часоў Хамурапі (вока за вока) суседнічаюць з правіламі Мандэлы (мінімальныя турэмныя стандарты ААН).

Турма мае пачатак, але ня мае канца. Яна — частка грамадзтва, і яе ўплыў не канчаецца за калючым дротам.

У катэгорыі бяды турма стаіць адразу перад сьмерцю. А ўсё, што стаіць перад сьмерцю, называецца жыцьцём.

Гэтая кніга — пра жыцьцё.




**Дзьмітры Гурневіч.**
**Забойства ў цэнтры Эўропы.**
2020 (PDF)

11 лютага 2019 году ў школе № 2 гораду Стоўпцы вучань 10-й клясы Вадзім М. учыніў падвойнае забойства — зарэзаў сваю настаўніцу Марыну Пархімовіч і вучня Сашу Раманава. Праз гісторыю гораду, мясцовыя легенды, меркаваньні стаўпецкіх людзей, з дапамогай філязофіі таталітарызму Ганны Арэнт аўтар вывучае прычыны і матывы злачынства, якое скаланула Беларусь.

# Ганна Арэнт у Стоўпцах

Забівалі заўсёды і ўсюды, гэта не навіна.
Забівалі сваіх і чужых, гэта не навіна.
Забівалі малых і старых, гэта не навіна.
Забівалі ў дарозе і на парозе, гэта не навіна.
Забівалі апоўначы і апоўдні, гэта не навіна.
Забівалі разам і паасобку, гэта не навіна.
Забівалі адразу і пакрысе, гэта не навіна.
Забівалі наўмысна і выпадкова, гэта не навіна.
Забівалі за нешта і за нішто, гэта не навіна.
Навіна — што мая віна…

- Дарога праз Курапаты
- Плошча
- Галасы салідарнасьці — 2010
- Жыцьцё пасьля раку
- Галасы Беларусі — 2020
- Галасы Беларусі — 2021
- Галасы Беларусі — 2022




## Дарога праз Курапаты.

2002 (PDF)

У Курапатах пачалася новая гісторыя Беларусі — легендарныя Дзяды-88. Але другая па ліку кніга «Бібліятэкі» — пра іншы, пазьнейшы пэрыяд змаганьня за памяць. Ганна Соўсь перадала больш за дзьвесьце рэпартажаў з Курапатаў і была ўганараваная прэміяй імя Алеся Адамовіча, якою Беларускі ПЭН адзначае найлепшую журналісцкую працу году. Унікальную кнігу аднаго рэпартажу падрыхтаваў да друку **Сяргей Дубавец.**

## Жывыя ў Курапатах

...Пазванілі зь Менску — праз Курапаты пачынаюць прабіваць дарогу. Я папрасіў неадкладна паслаць туды карэспандэнта, і ў вечаровым этэры 20 верасьня прагучаў рэпартаж. Мы ня ведалі, што гэта толькі пачатак, што паўстане ўнікальная кругласутачная вахта, што нажы бульдозэра будуць бурыць крыжы, што згарыць намёт, што нашыя магнітафоны будуць замярзаць пры мінус 20 градусах, а валянтэры будуць абараняць Курапаты, як абараняюць гонар ці Радзіму — без тлумачэньняў, рацыянальных падставаў, пошуку сродкаў і надзеі на перамогу.

На «Свабодзе» яшчэ не было такога выпадку, каб штодня больш за восем месяцаў запар весьці рэпартаж з аднаго месца. Так б'юць у звон — разьмерана, у адно і тое ж месца, і пругкі мэтал працінае паветра працяжнымі ўсхліпамі. Так кайлом на рудніках вырубаюць мёрзлую руду — у адну кропку, зноў і зноў, пакуль не надколецца глыба. У нас былі мікрафон, сярэднія і кароткія хвалі. І слухачы. У тым ліку — у Курапатах.

Мяжа ў Курапатах праходзіць не паміж мёртвымі й жывымі, а паміж памяцьцю і хлусьнёй, паміж учора і заўтра, і заўсёды — паміж катамі і ахвярамі.

Абаронцы адваявалі ў дарогі нашу годнасьць.




## Плошча. 19.03–25.03.2006.

2006 (PDF)

Калі б можна было вызначыць жанр кнігі як цуд, дык гэта кніга цуду, бо любая тэрыторыя свабоды ў сучаснай Беларусі — цудоўная і цудатворная. Намётавы лягер у цэнтры Менску ў адказ на абвешчаныя вынікі прэзыдэнцкіх выбараў сам па сабе цуд. **Сяргей Дубавец**, які складаў кнігу з кругласутачных рэпартажаў, уключыў і званкі з усёй Беларусі на аўтаадказьнік Свабоды — разгарніце кнігу, і вас захопіць агульнанацыянальная акустыка менскага цуду.

## Безразважнасьць і рашучасьць

За два дні да прэзыдэнцкіх выбараў, у пятніцу 17 сакавіка 2006 году, мне пазванілі з тэлекампаніі Сі-Эн-Эн з просьбай — раніцай 20 сакавіка ў жывым этэры пракамэнтаваць вынікі. Назаўтра я адлятаў з Прагі ў Менск, і рэдактары папрасілі прыслаць тэзісы, што прыкладна буду гаварыць.

Я паслаў ім кароткі электронны допіс, які пачынаўся так: «Паводле ЦВК, Аляксандар Лукашэнка атрымаў 82% галасоў...» Калегі, верагодна, ацанілі прагноз (афіцыйна абвешчаная лічба была 82,6%), і на наступным тыдні я быў у этэры Сі-Эн-Эн з тузін разоў — але мы амаль не гаварылі пра галасаваньне.

Вынікі не былі нечаканасьцю. Нечаканасьцю стала Плошча.

Плошча дамінавала на экранах усясьветных тэлеканалаў, на першых палосах вядучых эўрапейскіх і амэрыканскіх газэтаў, у радыёэтэры й інтэрнэце.

Першы намёт на зьледзянелым бруку паўстаў у панядзелак, 20 сакавіка, у 19:30; у чацьвер, 24 сакавіка, у 3:25 аўтазакі з абаронцамі накіраваліся да турмы. Чатыры ночы й тры дні, 80 гадзінаў, амаль 5000 хвілінаў свабоды.

Увесь гэты час разам зь дзясяткамі журналістаў на Плошчы былі карэспандэнты «Свабоды». А таксама — нашыя слухачы, іхны голас гучыць у гэтай кнізе.

Плошча стала галоўнай падзеяй вясны-2006. Гэта была вясна, якая, нягледзячы на замаразкі, усё адно ідзе.




**Галасы салідарнасьці.**

Мультымэдыйны дыск. 2010

Гэта самае простае і самае незвычайнае выданьне «Бібліятэкі». Бо што можа быць прасьцей, чым прачытаць у этэры імёны сямі сотняў людзей, якія трапілі за краты пасьля прэзыдэнцкіх выбараў у сьнежні 2010 г. І што магло быць больш незвычайным для слухачоў гэтага навагодняга этэру — што па-беларуску гэтыя імёны чыталі былыя прэзыдэнты ЗША і Чэхіі Джордж Буш і Вацлаў Гавэл, усясьветна вядомыя дысыдэнты, філёзафы, парлямэнтары, міністры, пісьменьнікі, сьвятары, праваабаронцы з трох дзясяткаў краінаў.

Салідарнасьць і надзея — самая звычайная і заўсёды незвычайная рэч для турмы і для свабоды.

## Навагодняя малітва па-беларуску

Я ніколі ня думаў, што буду вучыць беларускаму вымаўленьню амэрыканскага прэзыдэнта, а ён старанна будзе паўтараць «кан-ды-да-тыў-прэ-зы-дэн-ты-бе-ла-ру-сі». Як ніхто зь сямідзесяці чатырох удзельнікаў гэтай самай незвычайнай перадачы Радыё Свабода за ўсю гісторыю яго існаваньня ня думаў, што ў цэнтры Эўропы напрыканцы 2010 году можна за адну ноч арыштаваць сем афіцыйных прэтэндэнтаў на найвышэйшую пасаду краіны і больш за сямсот іх мірных прыхільнікаў.

Самае галоўнае слова для чалавека — ягонае імя. Так пабудаваная пошукавая сыстэма цывілізацыі, так яна працуе ўсюды, ад запісу ў пасьведчаньні аб нараджэньні да запісу ў пасьведчаньні кандыдата ў прэзыдэнты Беларусі, ад пераклічкі ў турэмнай камэры да радка памінальнай малітвы.

Міністры і паэты, філёзафы і сьвятары, мастакі і кінарэжысэры, кангрэсмэны і рок-музыкі ў ноч на Новы 2011 год гаварылі па-беларуску, і супраць гэтых словаў былі бясьсільныя шчыты і дубінкі, краты і турэмныя муры, генэралы і іхны галоўнакамандуючы.

Гэтыя імёны і прозьвішчы ў ноч на Новы 2011 год чуваць былі ў кожным месцы зямной кулі. Гэты кароткі акустычны сыгнал пра сем сотняў сярод сямі мільярдаў зямлянаў азначаў толькі адно — пра вас не забыліся, вы былі, вы ёсьць.

Ня больш.

І ня менш.




**Жыцьцё пасьля раку.**
2014 (PDF)

Супраціў, на думку ўкладальніцы гэтай кнігі **Ганны Соўсь**, — гэта ўнівэрсальная каштоўнасьць, якая не абавязкова мае палітычнае вымярэньне, але абавязкова вымярэньне салідарнасьці. Пад вокладкай сабраныя гісторыі анкалягічных хворых, якія пасьпяхова лечацца, ведаюць, што рак — не прысуд, і дапамагаюць змагацца і перамагаць іншым.

## На жаль, на шчасьце

На жаль, гэтая кніга будзе рабіцца больш папулярнай зь цягам часу, бо з ростам працягласьці жыцьця і якасьці дыягностыкі колькасьць анкалягічных пацыентаў у сьвеце будзе толькі расьці.

На шчасьце, досьвед, сабраны ў гэтым першым у Беларусі эвангельлі жыцьця пасьля раку, сьведчыць пра магчымасьць такога жыцьця.

На жаль, роспач, адчай і слабасьць, якія часам апаноўваюць людзей пасьля анкалягічнага дыягназу, не спрыяюць вылячэньню.

На шчасьце, удзельнікі гэтай кнігі самі ёсьць пераможным аргумэнтам у няспыннай вайне чалавецтва супраць заўчаснай сьмерці.

На жаль, табу, якімі мы ратуемся ад незразумелага, таемнага і фатальнага, ёсьць часткаю нашай культуры, гісторыі, быцьця.

На шчасьце, мы можам мяняцца і мяняць жыцьцё — так, як гэта робяць героі кнігі.

Бо рабіць гэта могуць толькі героі.




**Галасы Беларусі – 2020.**
2021 (PDF) (EPUB)

Шматгалосьсе і ўнісон сумяшчаецца ў гэтай харальнай фрэсцы. Людзі адкрыта загаварылі пра свае клопаты, жаданьні, радасьці і пакуты ў часе, дзе сышліся пандэмія, прэзыдэнцкія выбары і масавыя рэпрэсіі. Першая кніга з трылёгіі нацыянальнага мэлясу, які склаў **Сяргей Дубавец**.

# Галасы пад сярпом Тваім*

Паглядзі,
хто паўстаў,
куды ідзе,
што нясе,
чаго хоча,
у што верыць,
чым ахвяруе,
што даруе,
што не даруе,
узрадуйся
і жахніся,
Нялітасьцівы.

---

* «Бедныя, бедныя людзі! Як каласы, як травы пад сярпом тваім, нялітасьцівы Божа!»

Уладзімер Караткевіч, дацэнзурная рэдакцыя раману «Каласы пад сярпом тваім».




**Галасы Беларусі – 2021.**
2022 (PDF)

У 2021-м героі папярэдняй кнігі, «Галасоў-2020», перажылі звальненьне з працы, ператрусы ў хаце, гвалт, прыніжэньне, допыты, прысуды, уцёкі за мяжу або трапілі ў турму.

## Кожны аркуш белы,
## кожны радок чырвоны

Першай гіне граматыка:
Усё адбываецца бяз косак, бяз кропак,
без двукосьсяў.
Скончыўся ўмоўны лад: ня можа быць,
а будзе ці не.
Назоўнікі агаліліся:
Ня ўлада, а акупацыя, ня суд, а расправа,
ня вязень, а палонны.
Зьніклі паўцені, зьявіліся колеры:
Кожны аркуш белы, кожны радок чырвоны.
Такая вайна.




**Галасы Беларусі – 2022.**
2023

Ад лістоў з турмы да Нобэлеўскай лекцыі, ад надзеі на свабоду мільёнаў людзей, супраць якой улада распачала вайну ў сваёй краіне, да вайны ў суседняй Украіне, якая абараняе свабоду для ўсяго кантынэнту, — такі дыяпазон трэцяй кнігі «Галасоў». Трылёгія, безь якой немагчыма будзе напісаць па-беларуску ніводны падручнік гісторыі новай Беларусі і Эўропы.

## Колискова

...І голос не відберуть у всіх,
тільки в тебе.
І не відберуть у всіх Батьківщину,
тільки в тебе.
І не у всіх заберуть волю,
тільки в тебе.
І не всіх на війні вб’ють,
Тільки тебе.
Але любити будуть
Тільки тебе,
І поминати в молитві будуть
Тільки тебе,
Тому що голос Білорусі
Тільки ти.

## Калыханка

...І голасу ўсіх не пазбавяць,
Толькі цябе.
І не пазбавяць усіх Радзімы,
Толькі цябе.
І ў турму ўсіх не пасадзяць,
Толькі цябе.
І на вайне ўсіх не заб’юць,
Толькі цябе.
Але любіць будуць
Толькі цябе.
І памінаць у малітве будуць
Толькі цябе,
Бо голас Беларусі
Толькі ты.

- Прыгоды АРА ў Беларусі
- Беларуская Атлянтыда
- Сто адрасоў свабоды
- Освальд у Менску
- Мой Картаген
- Высьпятак ад Скарыны
- Нечаканы Скарына
- Падарожжа ў БНР
- Невядомы Менск




**Аляксандар Лукашук.**
**Прыгоды АРА ў Беларусі.**
2005 (PDF)

Авантурная гісторыя самай забытай у ХХ стагодзьдзі амэрыканскай гуманітарнай дапамогі ў 1920–1923 гг. Пра сябе пісаць у трэцяй асобе ніякавата, але што рабіць, калі знаходзіш сваё імя ў амэрыканскіх архівах (шэсьць разоў!), — толькі рэканструкцыю эпохі.

# Дзякуй праз сто гадоў

У архівах Гувэраўскага інстытуту я знайшоў сваё прозьвішча сярод атрымальнікаў амэрыканскай гуманітарнай дапамогі сто гадоў таму. Зьдзівіўся і напісаў кніжку «Прыгоды АРА ў Беларусі», дзе паспрабаваў аднавіць гісторыю гэтай самай буйной і самай забытай гуманітарнай дапамогі насельніцтву Беларусі ў XX стагодзьдзі.

На прэзэнтацыі ў Менску выступіў акадэмік АН Беларусі К. і сказаў, што мая праца заслугоўвае званьня кандыдата навук. Потым выступіў прафэсар Ш., які зь ім не пагадзіўся, бо даваць трэба было адразу доктара. Затым на сцэну падняўся народны паэт Б., які кнігу не чытаў, але лічыў, што аўтар заслугоўвае Нобэлеўскай прэміі.

Год таму я атрымаў ліст з Амэрыкі ад прафэсаркі гісторыі ўнівэрсытэту штату Вашынгтон, якая рэкамэндавала кнігу сваім студэнтам. Адна дзяўчына зрабіла яе тэму прадметам свайго дактарату, і перад абаронай яны ўзгадалі, што не папрасілі ў мяне дазволу на цытаваньне і іншыя аўтарскія правы.

Я тую доктарскую дысэртацыю не чытаў, але ўзгадаў сваю прэзэнтацыю і паслаў дазвол і віншаваньні. У наш час ужо можна даваць доктара за тое, што прачыталі.

А хутка і Нобэля.




**Вячаслаў Ракіцкі.**
**Беларуская Атлянтыда.**

(Кніга першая: рэаліі й міты эўрапейскай нацыі.)
2006 (PDF)

Аўтар, тэатральны крытык і шматгадовы рэдактар часопіса «Спадчына», гутарыць з гісторыкамі, фальклярыстамі, пісьменьнікамі пра айчынную гісторыю так, што драме і тэатральнасьці дыскурсу пазайздросьціў бы сам Шэксьпір.

# Бліскавіца ў дыямэнце

Вайна за скрадзенае мінулае пачалася на хвалях «Свабоды» ў самы першы дзень беларускага этэру, 20 траўня 1954 году. Вінцэнт Жук-Грышкевіч, Янка Запруднік, Паўла Ўрбан, Уладзімер Дудзіцкі, Уладзімер Цьвірка, Масей Сяднёў, Вітаўт Кіпель...

Эстафэту гістарычнай зоркі «Свабоды» 1970–1980-х гадоў, Язэпа Барэйкі, перанялі ў другой палове 1990-х два ягоныя маладыя слухачы — Вінцук Вячорка й Вячаслаў Ракіцкі. Іхная перадача «Неабжытая спадчына» гучала да канца XX стагодзьдзя.

Новае тысячагодзьдзе пачала перадача «Беларуская Атлянтыда». Адзін з разьдзелаў кнігі называецца «Настальгія па страчаным моры». Міты й рэаліі эўрапейскай нацыі, якія адкрыліся ў глыбіні мінуўшчыны Вячаславу Ракіцкаму й ягоным спадарожнікам, агаломшваюць, як агаломшвае чалавека першая ў жыцьці сустрэча з морам. Людзі — рыцары, будаўнікі, фальшываманэтнікі, чараўнікі, магнаты… Норавы — забавы, свары, бойкі, авантуры, сэкс... Ежа — клёцкі, селядзец, гарэлка, гарбата, сыр... Ваколіцы — лябірынты, мястэчкі, муры, балоты... Дзяржава — харугвы, канстытуцыі, інтрыгі, войны, калёніі... Сусьвет — Бог, чорт, рай, пекла, белая магія...

Бясконцы далягляд, велізарнае неба, бяздонныя глыбіні, рух хваляў часу й нясьцерпнае зьзяньне кожнай самай малой пясчынкі як выбух бліскавіцы ў сярэдзіне дыямэнту. І — свойская мяккая хваля, якая люляе й цягне за сабой.

Так пра айчынную гісторыю яшчэ не гаварылі.




**Вячаслаў Ракіцкі.**
**Беларуская Атлянтыда.**

Кніга другая: Міты і брэнды калянізаванай нацыі.
2010 (PDF)

У пошуку нашага ў чужым, чужога ў сваім і свайго ў нашым аўтар гутарыць зь філёзафамі, гісторыкамі, культуролягамі, пісьменьнікамі пра нацыянальныя і каляніяльныя міты і брэнды двух апошніх стагодзьдзяў.

# Рэстаўратары выраю

Вячаслаў Ракіцкі зь сябрамі робяць справу, якую немагчыма зрабіць: яны вычэрпваюць мора чужых мітаў, бліскучае, цяжкае і сьлізкае, як іртуць, і такое ж небясьпечнае.

Яны глядзяць назад і бачаць не мінулае, а таемнае і прышлае.

Яны адчыняюць куфар з фамільным срэбрам, а там манэты краіны, якой няма на мапе.

Яны выцягваюць са студні ваду, якая спараджае адно ненатольную смагу.

Яны здымаюць слой за слоем тынк у пошуках фрэскі, якой майстра не пасьпеў напісаць, хаця меўся і мог.

Яны ваююць зь ценямі, кожны зь якіх мае даўгі нож, што пакідае шнары, і так ствараецца новы рукапіс і летапіс.

Як прысохлы бінт з раны, яны зрываюць з гісторыі прасякнутыя сваёй крывёю чужыя сьцягі, і так паўстаюць іх харугвы.

І разыходзіцца мора на два бакі, і йдуць яны сваёй грамадой агромністай па вуліцах беларускай Атлянтыды, дзе ляціць Пагоня, дзе старыя багі яшчэ маладыя, дзе ахвяры недарэмныя, а слава вечная, як памяць, салодкая, як сьляза, і блізкая, як вырай.

Яны не азіраюцца.

За імі!




**Вячаслаў Ракіцкі.**
**Сто адрасоў свабоды. 1980–2010.**
2011 (PDF)

Гэта першая мапа Свабоды. Аўтар зафіксаваў і даў дакладныя каардынаты новай Атлянтыды — адрасы і гісторыі змаганьня за дэмакратыю і незалежнасьць у найноўшы час. Ёсьць дзе ўсталёўваць мэмарыяльныя дошкі, здымаць фільмы, куды прынесьці кветкі.

## 101-ы адрас

Увесну 2009-га мы сядзелі за круглым сталом у тэлестудыі Радыё Свабода ў Празе і абмяркоўвалі галоўныя тэмы тыдня, у ліку якіх быў ліст на бланку ЖРЭА з патрабаваньнем да арандатараў вызваліць памяшканьне на менскай вуліцы Варвашэні, 8, дзе пад бел-чырвона-белымі сьцягамі над уваходам месьцілася сядзіба БНФ, падобна, самае свабоднае беларускае месца за ўвесь час існаваньня незалежнай Рэспублікі Беларусі, і я спытаў удзельніка той перадачы Вячаслава Ракіцкага — ці павесяць там калі-небудзь мэмарыяльную шыльду і дзе яшчэ, з пункту гледжаньня сучаснай гісторыі, варта было б павесіць, — і вось праз два гады карпатлівых пошукаў, працяглых спрэчак і нечаканых удакладненьняў вы трымаеце ў руках ягоны адказ на гэтае пытаньне.

Адказ поўны, але сьпіс не завершаны.

Вы самі можаце яго працягнуць.

І 101-ы адрас — гэта тое месца, дзе вы цяпер разгарнулі гэтую кнігу.




**Аляксандар Лукашук.**
**Сьлед матылька. Освальд у Менску.**
2011 (PDF)

Беларуская сталіца — зачараванае месца для амэрыканскіх прэзыдэнтаў. Рычард Ніксан пасьля візыту пайшоў у адстаўку, Біл Клінтан атрымаў імпічмэнт, Гілары Клінтан правяла тут толькі шэсьць гадзін, набрала на тры мільёны галасоў больш за суперніка на выбарах, але ня стала прэзыдэнткай ЗША. Адзінае ў ХХ стагодзьдзі забойства амэрыканскага прэзыдэнта, Джона Кенэдзі, таксама мае прамое дачыненьне да Менску. Гісторыя двух гадоў жыцьця ў беларускай сталіцы Лі Гарві Освальда — амэрыканскага грамадзяніна, які стаў забойцам, адноўлена ў гэтай кнізе, напісанай у жанры палёту матылька.

# Ураган ад матылька

Самая вялікая ў гісторыі чалавецтва сьледчая справа, якая налічвае больш за чатыры мільёны аркушаў арыгінальных дакумэнтаў, ня кажучы пра кнігі, фільмы, тэлесэрыялы і м'юзыклы, прысьвечана забойству амэрыканскага прэзыдэнта Джона Фіцджэральда Кенэдзі былым жыхаром Менску Лі Гарві Освальдам.

У СССР 1960-х амэрыканец, які з сваёй волі прыехаў туды жыць і працаваць, успрымаўся як матылёк зь іншай плянэты. Менск часоў Освальда цяпер — таксама ўжо іншая плянэта, дзе лётае загадкавая чужародная істота.

І ўвесь час за ёю паварочваецца пільнае вока і вуха.

Разьдзел энтамалёгіі, які вывучае матылькоў, называецца лепідаптэралёгія. Разьдзел дзяржавы, які вывучаў людзей, называецца — кагэбэ.

Гэтая кніга не пра тое, хто і як забіў Кенэдзі.

Хутчэй — спроба аднавіць сьляды, якія пакінуў у менскім паветры паўстагодзьдзя таму адзін матылёк.

Літаратурны ляндшафт пасьля Освальда выглядае як пасьля рэйду цяжкога бамбавіка, а яго біяграфія — як гісторыя сусьветных войнаў.

Хоць насамрэч — матылёк праляцеў.




**Сяргей Абламейка.**
**Мой Картаген.**
2015 (PDF) (EPUB)

Гэта не пра Рымскую імпэрыю і яе войны, гэта пра нас тут і цяпер. У зборы эсэ ўжо відаць падмуркі будучых кніг ляўрэата прэміі Ежы Гедройця, доктара гісторыі **Сяргея Абламейкі**, якія выйшлі пазьней ў «Бібліятэцы».

# І ўсё ж

Лепшай назвай гэтай кнігі быў бы пачатак легендарнай фразы рымскага консула Катона-старэйшага, які сканчаў прамову на любую тэму напамінкам пра Картаген, які трэба разбурыць: «Ceterum censeo» — і ўсё ж, я мяркую...

Ceterum censeo, «Мой Картаген» зьяўляецца напамінкам пра тое, што варта адрадзіць.

Лепшай мовай для гэтай кнігі была б лаціна — медны звон літых гукаў, якімі гаворыць гісторыя.

Ceterum censeo, беларуская сама зьяўляецца гісторыяй, пра якую гаворыць.

Лепшай прадмовай для гэтай кнігі быў бы верш Веры Рыч «Рэцэпт цуду»: вазьміце краіну, якой на мапе няма, чые колеры й знакі разам з гісторыяй забралі суседзі, наліце сьлёз, усё гэта замясіце ў вечным посудзе часу.

Ceterum censeo, замешваць трэба ня фарбы, а попел, які зносіць вецер забыцьця.

Лепшым эпілёгам гэтай кнігі была б соль, якою аўтар пасыпае раны мінулага, як некалі рымляне засыпалі разбураны імі горад.

Ceterum censeo, гэта соль не на мінулае, а на памяць, яна баліць і, значыць, жыве і не дае забыцца.

Лепшыя словы, вучыў Катон, прыходзяць, калі ведаеш справу.

Ceterum censeo — аўтар ведае.




**Міхась Скобла.**
**Высьпятак ад Скарыны.**
2017 (PDF)

Беларускі першадрукар Францішак Скарына паўстае ў блогах і дыялёгах як наш сучасьнік. Аўтар прапануе свой адказ на пытаньні: чаму Скарына б радаваўся, на што гневаўся, чым цешыўся, за што і каму даў бы высьпятка ў сёньняшняй Беларусі? Цікава, ці пазнаў бы першадрукар свае словы ў пераказе паэта Алеся Разанава? І ці пазнаеце вы?

# Сучасьнікі

Сёньня,
праз 500 гадоў пасьля Скарыны,

Кожны, хто па-беларуску моліцца,
Кожны, хто па-беларуску каецца,
Кожны, хто па-беларуску лечыць,
Кожны, хто па-беларуску вучыць,
Кожны, хто па-беларуску чытае,
Кожны, хто па-беларуску піша,
Кожны, хто па-беларуску друкуе, —

Друкуе, піша, чытае, вучыць, лечыць, каецца
і моліцца так,
Бо ёсьць Скарына.
Кожны.




**Сяргей Абламейка.**
**Нечаканы Скарына.**
2018 (PDF)

Полацкі хлопчык, эўрапейскі падарожнік, студэнт-выдатнік, доктар лекарскіх навук, першадрукар, ілюстратар сваіх выданьняў, каралеўскі батанік — Францішак Скарына, якога чакалі, чалавек Адраджэньня як унівэрсальны беларус будучыні паўстае у гэтай кнізе. Эсэ ў 25 частках дае новы погляд на асобу першадрукара і нечаканае разуменьне ягонай дзейнасьці. Аўтар гутарыць зь беларускімі, аўстрыйскімі, італьянскімі, польскімі, францускімі і чэскімі навукоўцамі, якія расказваюць, як яны сёньня бачаць эпоху Скарыны. Кніга чаканых нечаканасьцяў — як і сам Скарына!

## Прыходзяць туды, дзе чакаюць

Сяргей Абламейка памыляецца, калі называе Скарыну нечаканым. І патрапляе, бо гэтае сьвята мае ўсё больш абліччаў.

Чаканьне ператварае час у прастору і пракладае дарогу для будучыні. Яна будуецца з самага няўлоўнага і надзейнага матэрыялу ў сьвеце: цікаўнасьці і цярплівасьці, дасьведчанасьці і дасканаласьці, захапленьня і настойлівасьці.

Гэты працэс аднолькавы з расшчапленьнем атамнага ядра і ва ўсе часы спараджае выбух энэргіі: дастатковы, каб з Полацку трапіць у Падую і там, у найлепшым тагачасным унівэрсытэце, атрымаць найвышэйшае прызнаньне вартасьці і стаць у адзін шэраг з сучасьнікамі — вялікімі гуманістамі; дастатковы, каб, пабачыўшы цуды антычнай спадчыны і эўрапейскага рэнэсансу, першым выдаць друкаваную кнігу на сваёй мове, у якой пазачасавай каштоўнасьцю абвясьціць любоў да месца, дзе нарадзіўся; дастатковы, каб ланцуговая рэакцыя праз стагодзьдзі стварыла народ, краіну, дзяржаву, дзе яго чын будзе адзначацца як агульнае сьвята.

А што можа быць лепшым падарункам на такое сьвята, як ня кніга — зноў з Прагі, зноў па-беларуску, зноў нечакана.

Хоць не — прыходзяць туды, дзе чакаюць.




**Сяргей Шупа.**
**Падарожжа ў БНР.**
2018 (PDF)

Клясыка жанру і нават больш. Чакалі менавіта такой кнігі, і яна не магла не зьявіцца да 100-годзьдзя БНР. Гэтая праца вядомага дасьледніка архіваў БНР занадта маляўнічая, каб быць гістарычнай манаграфіяй, і занадта стрыманая ў аўтаравай фантазіі, каб быць літаратурным творам, адсюль і жанр — «архіўны раман». На яе старонках у трох сотнях кароткіх фрагмэнтаў апісваецца ўзьнікненьне цуду, які адбыўся 100 гадоў таму, — незалежнай Беларусі. Дакраніцеся да цуду!

## Лесьвіца ў мінулае, якая вядзе ўгару

У мінулае можна ўпасьці, як у бездань, можна ўзьляцець, як у мару, а можна спусьціцца, як па лесьвіцы, дзе пад кожнай прыступкай закладзеная міна — крок за крокам, кожны зь якіх можа стаць апошнім, і таму нельга нічога прапусьціць і трэба ўсё спраўдзіць на свае вочы і перамацаць сваімі рукамі:

цыдулку за цыдулкай,
ліст за лістом,
даведку за даведкай,
рахунак за рахункам,
ордэр за ордэрам,
мандат за мандатам,
пасьведчаньне за пасьведчаньнем,
расьпіску за расьпіскай,
загад за загадам,
мэмарандум за мэмарандумам,
тэлеграму за тэлеграмай,
пратакол за пратаколам,
пастанову за пастановай,
акт за актам,
грамату за граматай, —

і толькі тады можна запрашаць у гэтае падарожжа іншых, і, куды б яны ні йшлі, яны выйдуць на сьвятло, бо гэтая лесьвіца заўсёды вядзе ўгару.




**Сяргей Абламейка.**
**Невядомы Менск. Гісторыя зьнікненьня.**
Кніга першая. 2021 (PDF) (EPUB)

Калі невядомае робіцца вядомым, яно зьяўляецца і становіцца новай рэальнасьцю. Двума тамамі выйшла гэтае дасьледаваньне, якое ахоплівае пэрыяд з 1919 да 1956 гадоў. Кнігі выклікаюць дух Старога гораду на бітву з дэманам разбурэньня Менску — і перамагаюць забыцьцё. Разгарніце — і пабачыце, чаму не памылілася журы найвышэйшай у Беларусі незалежнай літаратурнай узнагароды, прэміі імя Ежы Гедройця, калі прысудзіла яе ў 2022 годзе аўтару гэтай кнігі.

# Менскі палімпсэст

Яны думалі,
што ўсё сьцерлі,
што ўсё зьнесьлі,
што ўсё зраўнялі,
што ніхто не заўважыць,
што ніхто не здагадаецца,
што ніхто ня ўспомніць,
што ніхто не захоча,
што ніхто ня зможа,
што нікому ня трэба,
што ўсё забылі.

Наіўныя…




**Сяргей Абламейка.**
**Невядомы Менск. Гісторыя зьнікненьня.**
Кніга другая. 2021. (PDF) (EPUB)

Аўтар, доктар гісторыі, журналіст і пісьменьнік, зноў выклікае дух Старога гораду на бітву з дэманам разбурэньня Менску. Другая кніга вайны (1941–1956).

## Горад веры

Ці ня лепей было б
Не будаваць горад
На гэтай рэчцы
Ў крыві па калені,
Зь берагамі злымі,
Касьцямі засеянымі,
Галовамі ўсланымі,
Душамі адвеянымі.
Позна пытацца.
Але ў Бога часу няма,
І няма рана, і няма позна
Таму, хто верыць
У гэты горад.
Бо ў яго можна
Толькі верыць.

- Дзевяноста першы
- Дзевяноста другі
- Дзевяноста трэці
- Дзевяноста чацьверты
- Дзевяноста пяты
- Дзевяноста шосты




**Сяргей Навумчык.**
**Дзевяноста першы.**

2013 (PDF)
2-е выданьне. 2016 (PDF) (EPUB)

Аўтар кнігі, дэпутат Вярхоўнага Савету Беларусі 12-га скліканьня, быў каардынатарам Апазыцыі БНФ і непасрэдным удзельнікам паўстаньня незалежнай Беларусі і падзеньня Савецкага Саюзу. Кніга пра тое, як дзякуючы спрыяльным абставінам і насуперак абставінам неспрыяльным у 1991 годзе Беларусь стала незалежнай.

# MCMXCI

«У, сука, апяць пашол да мікрафона!» — шыпелі, шалелі і курчыліся намэнклятурныя дэпутаты Вярхоўнага Савету БССР, калі Сяргей Навумчык браў слова.

Ён і яго паплечнікі бралі слова, як штангіст бярэ вагу, вырываючы з ланцугоў зямнога прыцягненьня чыгунны цяжар, калі сэрца выбухам выкідвае кроў у жылы, дыханьне спыняецца на выдыху, мускулы ўзрываюцца і ўсё жыцьцё ператвараецца ў энэргію, каб адарваць, узьняць і трымаць.

Пасьля Курапатаў, Хатыні і Чарнобылю незалежнасьць Беларусі выглядала як цуд, які мае нябеснае паходжаньне. Але як зерне ўродзіць толькі на апрацаванай глебе, гэтак і цуды звальваюцца толькі туды, дзе іх чакаюць, рыхтуюць і гатовыя прыняць.

Дэпутаты апазыцыі ў 1991 годзе зрабілі больш, чым маглі. Зрэшты, гісторыя робіцца толькі так. Вышыні прыцягваюць маланкі, дзікі вецер палітыкі не адрозьнівае колераў, і асабістыя лёсы дэпутатаў Незалежнасьці падобныя да лёсаў іхных папярэднікаў, хоць, на шчасьце, не паўтараюць іх. Яны зрабілі ўсё, каб трэцяе ў XX стагодзьдзі, пасьля 1918 і 1919, нараджэньне Беларусі як нацыянальнай дзяржавы стала апошнім.

Таму год Незалежнасьці — 1991 — варта пазначаць так, як пазначаюцца ў гісторыі Эўропы тысячагодзьдзі і вякі, рымскімі лічбамі: MCMXCI. Гэтыя лічбы, паводле правіла, ня могуць паўтарацца больш за тры разы. У гэтай сыстэме няма знака толькі для адной лічбы — нуля.

І ня будзе.




**Сяргей Навумчык.**
**Дзевяноста другі.**
2017 (PDF) (EPUB)

Аўтар разглядае 1992-і, калі быў забаронены рэфэрэндум аб датэрміновых выбарах у Вярхоўны Савет, як год пачатку драмы беларускай дэмакратыі. Ашаламляльнае падарожжа ў будучыню, якая пакуль застаецца ў мінулым. «Людемъ посполитымъ к доброму научению», як сказаў бы Скарына.

# На крылах

Людзі будучыні жывуць так, быццам мінулага ўжо ніколі ня будзе.

Людзі мінуласьці жывуць так, быццам яна ніколі ня скончыцца.

Памыляюцца і тыя, і тыя, але нават калі ў зачараваным танцы гісторыі яны мяняюцца месцамі і ролямі, першым — мая сьляза, мая роспач, мой гнеў, а другім — агіда, абрыда, астуда.

Параза не заўсёды памылка, а перамога не абавязкова праўда.

У 1992-м надзея была.

І таму ёсьць.




**Сяргей Навумчык.**
**Дзевяноста трэці.**
2018 (PDF) (EPUB)

У трэцім томе хронікі новай беларускай дзяржаўнасьці канца XX стагодзьдзя аднаўляецца ўва ўсёй вастрыні барацьба ў парлямэнце за і супраць вайсковых саюзаў, за энэргетычную незалежнасьць і супраць увядзеньня прэзыдэнцтва, тлумачацца ашаламляльныя здабыткі і паразы нацыянальнага адраджэньня і дэмакратыі, паўстаюць галоўныя дзейныя асобы і драматычныя для свабоды наступствы іх выбару.

# Апошні мірны год

Яшчэ ніхто ня зьнік, не пабіты АМАПам, не сядзіць на «Акрэсьціна», не галадае ў «Валадарцы», не шукае рыфмы на нарах «Амэрыканкі», ня просіць аб памілаваньні, ня выключаны з унівэрсытэту, ня выкінуты з працы, ня выштурхнуты ў эміграцыю.

Яшчэ бел-чырвона-белы сьцяг лунае над парлямэнтам, міліцыянты і памежнікі носяць форму з Пагоняй, юбілеі БНР, зьезды беларусаў замежжа, канфэрэнцыі БНФ адбываюцца ў галоўных залях сталіцы, восем з кожных дзесяці першаклясьнікаў вучацца па-беларуску, незалежныя газэты выходзяць статысячным накладам, кнігі пра сапраўдную гісторыю друкуюць дзяржаўныя выдавецтвы.

Яшчэ не прынятая Канстытуцыя, ня ўведзенае прэзыдэнцтва, не пачаўся рэфэрэндумны шал. Але ўжо ачомалася ад здранцьвеньня мінулае. Ужо бярэ рэванш у палітыцы, у эканоміцы, у войску. Яно ўжо тут.

Дзевяноста трэці, апошні мірны год, магчыма, самы шчасьлівы ў люстэрку незалежнасьці.

Такое беларускае шчасьце — абы не было вайны.

Хоць яна была.




**Сяргей Навумчык.**
**Дзевяноста чацьверты.**
2015 (PDF) (EPUB)

Як карнавал дэмакратыі ў 1994 ператварыўся ў хаўтуры. У фокусе кнігі — першыя ў Беларусі прэзыдэнцкія выбары.

# У сьне

Жыла-была прынцэса. І калі споўнілася ёй тысяча дзён, захацела яна ўзяць шлюб. Казачны час ляціць хутка — прынцэса была ўжо самастойнай, мела свае войска і скарбніцу, суседзі запрашалі ў госьці і прысылалі паслоў, ёй падалося, што яна ўжо дарослая і ўсё ведае, і не хапае толькі гаспадара.

Розныя прынцы дамагаліся яе рукі. Адзін абяцаў будучыню, другі мінуўшчыну, а трэці абяцаў казку, у якой будзе і мінулае і будучыня. Зачараваў прынцэсу ягоны голас і пабралася яна з тым трэцім. Звычайна тут усе казкі і канчаюцца — маўляў, сталі яны жыць-пажываць ды дабра нажываць.

Але гэтая казка незвычайная: адразу пасьля шлюбу прынц замкнуў прынцэсу ў вежы і спыніў вежавы гадзіньнік, час застыў і ўсе заснулі. Іх вочы бачылі толькі тое, што паказвалі ў зачараваным люстэрку, а вушы чулі толькі тое, што казаў новы гаспадар. А тых, на каго чары не падзейнічалі, пачалі лавіць і саджаць у турмы.

Як так выйшла? Хто вінаваты? Чаму столькі часу цягнецца гэты сон?

Адказы схаваныя за высокімі сьценамі, складзенымі зь мёртвых гадоў, за палямі небясьпечных, як міны, пытаньняў, у гушчары падступных, як дрыгва, летапісаў. Патрэбныя дакладная мапа, надзейны компас і дасьведчаны праваднік.

І хто падыходзіць на гэтую ролю лепш за чалавека, які быў з прынцэсай яе першую шчасьлівую тысячу дзён, верыў у яе прышласьць, спрабаваў засьцерагчы ад аблуднага выбару і абудзіць ад летаргіі і, нягледзячы ні на што, яе любіць.

За ім!




**Сяргей Навумчык.**
**Дзевяноста пяты.**
2015 (PDF) (EPUB)

У пятай кнізе цыклю ўвага канцэнтруецца на галоўнай палітычнай падзеі — рэфэрэндуме аб зьмене сьцяга і герба і статусу беларускай мовы.

## Рэцэпт вечнай улады

Каб павярнуць рэкі гісторыі назад,
Каб замяніць словы ў песьнях і колеры
на сьцягах,
Каб аднавіць краты на турмах,
Каб абвясьціць герояў ворагамі,
Каб перабяліць злыдняў на праведнікаў,
Каб абвінаваціць верных у здрадзе,
Каб уганараваць чужых як сваіх,
Каб намаляваць цёмных сьветлымі,
Каб сьцерці памяць і ўславіць хлусьню,
Каб назваць плач песьняй, а крык ухвалай,
Каб ганарыцца тым, чаго саромеюцца,
Каб саромецца таго, што шануюць,
Каб аддаць сьвятыні псам,
Трэба проста казаць, што так хоча народ,
І лічыць: народ — гэта я, і так будзе вечна.
Але вечны толькі сьмех з тых, хто так лічыць.
Амін.




**Сяргей Навумчык.**
**Дзевяноста шосты.**
2021 (PDF)
2-е выданьне. 2021 (PDF) (EPUB)

У заключным томе хронікі новай беларускай дзяржаўнасьці канца XX стагодзьдзя аўтар апавядае пра масавы супраціў аб’яднаньню Беларусі і Расеі, вядомы як «Вясна-96», арышты, драматычны выезд за мяжу і наданьне адміністрацыяй ЗША палітычнага прытулку лідэру Беларускага Народнага Фронту Зянону Пазьняку і яму, прызнаньне тым самым рэжыму ў Беларусі аўтарытарным, а таксама аналізуе адчайную спробу імпічмэнту, якая скончылася паразай Канстытуцыі.

## 96

Год
Куляецца
Дагары нагамі
І ператвараецца
Ў матылька.
Якую ён выкліча буру!

- Дарога
- Мой шыболет
- Птушкі пералётныя
- Майстроўня
- Спадар Свабода




**Івонка Сурвіла.**
**Дарога: Стоўпцы – Капэнгаген – Парыж – Мадрыд – Атава – Менск.**
2008 (PDF)
2-е выданьне. 2018 (PDF)

Дзейная старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Івонка Сурвіла расказвае гісторыю свайго жыцьця і ў 2-м выданьні адказвае на сто пытаньняў з нагоды 100-годзьдзя абвяшчэньня БНР. Рэдкая рэч: хочацца ўведаць больш, яшчэ і яшчэ, але лякані́зм — частка стылю, і кніга прачытваецца хучэй, чым спадзяесься.

# Яе азымут

Прадмова да гэтых успамінаў прагучала ў этэры 20 траўня 1954 году, у самы першы дзень трансьляцыі Радыё Свабода («Радыё Вызваленьне»): «У тапаграфіі кут, мераны ўправа ад магнэтнай поўначы, завецца азымутам. Азымут паказвае нам напрамак простага маршу да мэты».

Акурат пра гэтыя, яшчэ не напісаныя, успаміны гаварылася ў той гістарычнай перадачы: «Мы, беларускія эмігранты, маем свой зьмераны і добра запамятаны азымут ад месца нашага прабываньня да нашай мэты — Беларусі. І гэты азымут мы завём азымутам сэрца».

Гэтыя ўспаміны мелі на ўвазе іх аўтары, першыя супрацоўнікі «Свабоды», калі казалі: «Дык дай нам, Божа, каб наша слова дайшло да вас цераз усе запоры і барыкады, каб яно, дайшоўшы, знайшло ў вашых сэрцах пажаданы водгук!»

Сёмая старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла ніколі не жыла ў незалежнай Беларусі, нарадзілася пад польскім панаваньнем, перажыла савецкую акупацыю, пакінула радзіму падчас гітлераўскай, але яе дарога заўсёды была вольная, і дарога вяла да Беларусі і была яе Беларусьсю, і цяпер яна запрашае ўсіх з сабой у памятныя мясьціны свайго доўгага падарожжа.

Азымут не памяняўся.




**Пётра Садоўскі.**
**Мой шыболет.**
2008 (PDF)

Дэпутат Вярхоўнага Савету, першы амбасадар незалежнай Беларусі ў Нямеччыне, удзельнік галадоўкі супраць рэфэрэндуму аб мове, сьцягу і гербе, віртуоз мовы, ня толькі назваў свае ўспаміны словам зь Бібліі (якое пішуць то праз «а», то праз «о»), але і вызначыў іх жанр як арабэскі. Гэты шлях ад Фройда да Майсея, ад сувораўскай вучэльні да нацыянальнага абуджэньня, дзе сустрэча з рэальным ваўком менш вусьцішная, чым сустрэчы з калегамі-дэпутатамі — ня кніга, а араторыя.

## На плошчы бяз слоў

Словы зьніклі тады і там, калі і дзе яны былі неабходныя як ніколі і як нідзе.

Тады, у жніўні 1991-га, яго выступу на плошчы чакалі тысячы людзей, зь якіх у гэтыя імгненьні назаўсёды спаўзала грамадзянства калёніі і яны станавіліся грамадзянамі Беларусі. Плошча таксама скідала аброць імені злоснага карліка, які тырчэў пад вокнамі Дому ўраду, і набывала горды назоў Незалежнасьці. Час, пра які ён марыў, у які верыў і які набліжаў, пераставаў быць чарадой дзён і гадзін і на вачах рабіўся найноўшай гісторыяй Эўропы.

Ззаду быў здохлы путч, вакол былі шчасьлівыя сябры, перад ім быў мікрафон — але не было словаў, яго найвялікшага скарбу, які ён зьбіраў і вывучаў усё жыцьцё, ведаў іх найдрабнейшыя таямніцы і старажытныя радаводы, іх мясцовыя норавы і заморскае сваяцтва, іх званарную цьвёрдасьць і салодкую мяккасьць.

І тады ён засьпяваў — як герой «Трох дарожанек» Янкі Купалы, які абраў дарогу не на Ўсход і не на Захад, а тую, што вяла «ў родну межаньку»:

*І запеў жаўнер*
*Той прыгожанькі:*
*Гэй, гэй, гэй-гэй!*
*А ў бары, у бары*
*Тры дарожанькі...*

А свае словы потым вярнуліся. Яны і склалі гэтую кнігу.




**Галіна Руднік.**
**Птушкі пералётныя.**
2011 (PDF)

Успаміны вэтэрана Свабоды, якая працавала ў самым першым складзе рэдакцыі Беларускай службы. Дзяцінства ў краіне Сталіна, юнацтва ў нямецкіх лягерах уцекачоў і ўсё астатняе жыцьцё — з Радыё Свабода. Птушка зь берагоў Бярэзіны, якая даляцела да Нью-Ёрку і вярнулася ў родную мову.

## Дачка Сталіна выбрала яе голас

У восем гадоў Галіна зайздросьціла толькі дзьвюм дзяўчатам у сьвеце: дачцэ Сталіна Сьвятлане і аднаклясьніцы, маці якой працавала прыбіральніцай у менскім НКВД. Галіна была пэўная, што вось у іх ніколі маму не адбяруць.

Калі праз тры дзесяцігодзьдзі дачка Сталіна перадала свае ўспаміны на Радыё Свабода, ёй далі паслухаць пробныя запісы дзьвюх супрацоўніц: першы быў зроблены дачкой расейскага сьпевака Фёдара Шаляпіна Тацянай, другі — дачкой ворагаў савецкага народу Галінай Ганчарэнкай.

Яе бацька-вайсковец быў расстраляны ў 1937-м, маці адпраўленая ў канцлягер зь безнадзейнай назвай «Сухабязводнае». Дзяўчынка паспрабавала скончыць жыцьцё самагубствам: у сакавіку лягла на зямлю і доўга ляжала, а потым цудам выжыла пасьля страшэннага запаленьня лёгкіх. Астатнія выжываньні таксама былі цудамі і зьліваліся ў адну лінію лёсу, які прывёў яе ў Амэрыку.

Яна будзе працаваць і вучыцца па дваццаць гадзінаў у суткі, а таксама сьпяваць, танчыць, сьмяяцца нягледзячы ні на што, пакуль у 1954-м ня вернецца ў Эўропу, каб працаваць на Радыё Свабода ад заснаваньня аж да краху савецкай імпэрыі, які яна назаве галоўным вынікам сваёй працы.

І дачка самага крывавага тырана ў гісторыі чалавецтва ня знойдзе лепшага голасу, які б данёс яе словы да мільёнаў слухачоў за жалезнай заслонай, чым голас беларускай дзяўчыны з Бабруйску.

У гэтай кнізе яе XX стагодзьдзе.

Словы цуду. Голас Галіны.




**Сяргей Дубавец.**
**Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду.**
2012 (PDF)

Нобэлеўскі ляўрэат Алесь Бяляцкі піша ў сваіх турэмных успамінах, як за кратамі яму трапіла ў рукі гэтая кніга «Бібліятэкі»: «Чытаю „Гісторыю аднаго цуду“ Дубаўца, яна мне проста душу выварочвае». Гісторыю першай моладзевай арганізацыі будучыні, Беларускай сьпеўна-драматычнай майстроўні (1981–1984), пісалі яе удзельнікі Тацяна Сапач і Сяргей Дубавец, якія зьбіралі сьведчаньні былых майстроўцаў. Тацяна кнігі не дачакалася — у сьнежні 2010 году, калі ў этэр выйшла апошняя перадача цыклю, яна загінула ў аўтааварыі. Але цуды застаюцца, і ня толькі ў памяці.

## Аватар М

Майстроўня дала аватар свабоды, які цяпер заўсёды будзе на мапе Беларусі — разам з выспай філяматаў і філярэтаў, вулканам паўстаньня Каліноўскага, морам Нашай Нівы, гарамі БНР, далінамі Грамады і ТБШ, крыніцамі Саюзу беларускіх патрыётаў, садамі мастакоў, музыкаў і паэтаў, якія выраста лі ў нежывых, як на Месяцы, пустынях русіфікацыі і дэспатыі ды ператваралі мёртвы ляндшафт у родны кут.

Майстроўня стала аватарам пакаленьня:

М – мова
А – айчына
Й – вырай
С – сьвята
Т – талака
Р – цьвёрдасьць
О – націск
Ў – адметнасьць
Н – наша
Я – мы

Майстроўня была аватарам, увасабленьнем на зямлі звычайнага цуду.

А рэшта — проста гісторыя.




**Сяргей Астраўцоў.**
**Спадар Свабода.**
2020 (PDF)

Гэтую кнігу ўспамінаў не пасьпеў напісаць сам яе герой, і яе напісаў ягоны сябар і калега **Сяргей Астраўцоў**. Драматычны аповед пра Ігара Герменчука, студэнта, які жыве беларушчынай, каханьнем, сябрамі, пра Герменчука-дэпутата, аднаго з бацькоў незалежнасьці Беларусі, па вокнах якога страляюць, пра Герменчука-рэдактара, газэта якога выходзіць па-беларуску статысячным накладам, — партрэт, які мусяць вывучаць будучыя рэпартэры, рэдактары і гісторыкі, якія хочуць нешта зразумець і нечага дамагчыся ў сваім жыцьці.

## Курс свабоды

Год быў 1990-ы, Ігар Гермянчук зайшоў у мой кабінэт у Доме друку, дзе мы нешта абмяркоўвалі зь яго аднакурсьнікам Сяргеем Навумчыкам, і яны раптам кінуліся насустрач адзін аднаму і абняліся, як абдымаюцца салдаты пасьля вайны: «Дзядзька, віншую, узаемна!» — абодва перамаглі на выбарах у самы важны парлямэнт у гісторыі Беларусі, проста ніхто яшчэ ня ведаў, што ён стане самым важным і што іх галоўная перамога наперадзе. Памятаю, як разам зь лёгкай зайздрасьцю ў мяне ўзьнікла выразнае адчуваньне, што яны ўжо ў іншым вымярэньні, зь незнаёмай адказнасьцю, невядомымі ўзаемаадносінамі з будучыняй, на нейкай новай вайне.

Так і сталася.

Гэтая кніга прысьвечана адной асобе, але партрэт атрымліваецца групавы: курс журфаку, які даў героя, аўтара і рэдактара гэтай біяграфіі, іх сяброў і сяброўак, якія стваралі новы час у літаратуры, журналістыцы, гісторыі.

Ігар рэдагаваў самую папулярную ў краіне незалежную беларускую газэту так, як вядуць баявыя дзеяньні адначасна на сушы, на вадзе і ў паветры, бо газэту з назвай «Свабода», падобна, можна рэдагаваць толькі так. Яго біяграфія чытаецца як франтавы раман, бо вайна за Беларусь — заўсёды вайна за свабоду.

Хоць гэтая вайна ня скончаная, ён перамог.

- Быў у пана верабейка гаварушчы...
- Клініка кітайскага дантыста
- Забіць упалмінзага




**Зьміцер Бартосік.**
**Быў у пана верабейка гаварушчы...**
2016 (PDF)

У гэтай кнігі ёсьць аўтар, але насамрэч гэта кніга народнай памяці. Перадача «Падарожжы Свабоды» завяла слухачоў у такія адрасы і закавулкі ўспамінаў, пра якія сьведкі адважыліся распавесьці толькі напрыканцы жыцьця. І на гэтым шляху кніга сустрэла найвышэйшую незалежную літаратурную прэмію Беларусі, якая носіць імя Ежы Гедройця. Але гэта аказалася толькі першая кніга трылёгіі падарожжаў па нацыянальнай памяці.

# Вялікая падарожная кніжка

Тысячу разоў выпраўляўся Падарожнік у паход па невядомай плянэце з таямнічай цывілізацыяй, зьменлівым мінулым і застылай будучыняй.

Тысячу разоў сустракалі Падарожніка зачыненыя брамы, замкнёныя дзьверы, закрытыя вокны.

Тысячу разоў Падарожнік прасіў напіцца ў тутэйшых, якія ня ведалі, дзе жывуць, які час на календары, адкуль і куды ідуць.

Тысячу разоў Падарожніку казалі, што тут разумеюць толькі, чаго ня бачыць, што не памятаць, як не адказваць.

Тысячу разоў даставаў Падарожнік з заплечніка жывую цікаўнасьць, бясконцую цярплівасьць і ветлівую настойлівасьць.

Тысячу разоў мусіла паўтарыцца тысяча разоў, каб расплюшчыліся вочы, расьцяліся вусны, паліліся прызнаньні і паўстала гэтая малая падарожная кніжка.

Малая, як сьвет бясконцы, што ў ёй адкрываецца.




**Зьміцер Бартосік.**
**Клініка кітайскага дантыста.**
2018 (PDF)

Нястомны вандроўнік Свабоды адпраўляецца ў падарожжа па забытых адрасах культуры і ўваскрашае цэлыя эпохі, сюжэты і жарсьці. Ён знаходзіць сьляды француза Апалінэра ў Беларусі і беларуса Рыпінскага ў Лёндане, апавядае кур’ёзныя гісторыі пра беларускіх пісьменьнікаў і галоўнага героя позьнесавецкай Беларусі Ўладзімера Караткевіча, а ў прыгадках пра «дачку Леніна» і Халодную сынагогу ажывае даўно зьніклы Менск.

## Новая зямля

Усе маюць родны кут, а Зьміцер Бартосік мае ўсю Беларусь і ваколіцы, а таксама тую мінуўшчыну, якая не мінае. Якая сьмяецца зь сябе і плача па нас, бо яна гэта мы.

Краявід без імёнаў мёртвы, замкі рассыпаюцца безь летапісца, даляглядаў няма без мастака.

Мы думалі, аўтар — актор, а ён драматург,
мы думалі — журналіст, а ён філёзаф,
мы думалі — бард, а ён паэт,
мы думалі — пісьменьнік, а ён падарожнік.

Калі не спыняцца, зямля заўсёды новая.




**Зьміцер Бартосік.**
**Забіць упалмінзага.**
2022 (PDF)

Трэцяя кніга «Падарожжаў Свабоды» адкрывае невядомую вайну супраць савецкай улады ў Беларусі — паўстаньні, байкоты, супраціў, які адбываўся ў паваенныя гады. Гэтую тайну нездарма захоўвалі як дзяржаўную — бо Беларусь была ня толькі партызанскай краінай, але і антысавецкай. Пабудаваная на дакумэнтах сэнсацыя завяршае трылёгію ягоных паездак па невядомай эўрапейскай краіне і размоваў па-беларуску зь яе таямнічымі насельнікамі.

## Археалёгія Беларусі

Спытае анёл, хто ты,
І пачуе: капач.
Спытае анёл, што капаў,
Пачуе: мінуласьць.
Спытае анёл, што знайшоў,
Пачуе: прышласьць.
Узрадуецца анёл, бо гэта боская справа,
І заплача, бо ўсе палі тут мінныя
І ўсе шляхі вядуць праз іх,
А іншых няма
Ад зямлі да неба.
І ад неба да зямлі.

- Вострая Брама
- Акцэнты Свабоды
- Як?
- Вольная студыя
- Сем худых гадоў
- Каліноўскі і палітычнае нараджэньне Беларусі
- Неверагодны 2020-ы
- Чаму Беларусь не Расея




**Сяргей Дубавец.**
**Вострая Брама.**
2005 (PDF)

Культавая нядзельная перадача Сяргея Дубаўца была першым беларускім падкастам, хоць гэтае слова ў канцы 1990-х яшчэ не існавала. Культурны кантэкст на мяжы стагодзьдзяў у інтэрпрэтацыі аўтара і яго сяброў ператварыўся ў інтэлектуальную беларускую рэвалюцыю. «Вострая Брама», якая гучала дзясятак гадоў, заслугоўвала свайго штогадовага альманаху, бо яе адкрыцьці вялі ў невядомае, парадоксы ператваралі звыклае ў чароўнае, а нацыянальны дыскурс станавіўся інтымным. Тым, хто адкрые гэтую браму ўпершыню, можна толькі пазайздросьціць.
А цяпер можна і паслухаць.

# Звон Вострае Брамы

У Вострай Браме звону няма. Але хто мае прымач, чуе «Вострую Браму» ўжо восьмы год — кожны тыдзень, у нядзелю ўвечары, у Беларусі й Сібіры, Амэрыцы і Аўстраліі слухачы ловяць акорды Брамса, якія адкрываюць перадачу.

У паўвекавой гісторыі «Свабоды» «Вострая Брама» стварае прэцэдэнт — маратон аднаго аўтара, які мае паўгадзіны этэру і свой погляд на сьвет. Гэта сьвет, дзе мінулае яшчэ не мінула, дзе сапраўднасьць шукае сваё аблічча, дзе самыя простыя рэчы выглядаюць няпэўнымі, бо адсутнічаюць каардынаты нормы.

«Вострая Брама» аднаўляе кантэкст — нацыянальны, эўрапейскі, агульначалавечы.

«Вострая Брама» робіцца ў Вільні — зь любога іншага месца рабілася б іншая перадача. Віленскі погляд дае адчуваньне, якой была і якой можа стаць беларуская Беларусь. Калі ў сэрцы трывога і жах за радзіму, першым, што ўспомніў паэт, стала Вострая Брама.

На пераломе стагодзьдзяў Сяргей Дубавец вяртае Вострую Браму ў Беларусь.




**Сяргей Дубавец.**
**Як? Азбука паводзінаў.**
2009 (PDF)

Мадэлі сучаснай этыкі ад «А» да «Я» аўтар сабраў у энцыкляпэдыю паводзінаў: як бараніцца і як галасаваць, як дараваць і як любіць, як сябраваць і як хітраваць? Няўжо разам з эпохамі зьмяняецца ня толькі сьвет вакол нас, але й нашы ўласныя ўяўленьні пра «вечнае», пра багацьце й беднасьць, геройства й прыстасаванства, а ўрэшце — пра дабро і зло?

# Як дубавець?

Як як Дубавец? Напрыклад, так:

А — падлеткам прачытаць Шэксьпіра па-беларуску і захапіцца мовай так, каб потым друкаваць на ёй самвыдат на абсталяваньні Менскага апэратыўнага палка Ўнутраных войскаў СССР.

Б — за царом гарохам стварыць з майстрамі нефармальных сьпеваў «Майстроўню» і зусім не местачковых «Тутэйшых».

В — стаць менскім віленчуком, абараняць літоўскі парлямэнт ад савецкіх танкаў і атрымаць мэдаль «За адвагу».

Г — адрадзіць адразу дзьве газэты, «Свабоду» і «Нашу Ніву», так, што іх маглі б лічыць сваімі заснавальнікі.

Д — паглядзець на айчынную літаратуру, як францускія імпрэсіяністы на Лёндан, і паказаць тое, чаго не хацелі бачыць іншыя, — ружовы туман.

Е — выйсьці на суд за беларускую мову і перамагчы.

Ё — здавацца заўсёды цьвёрдым, бяз нэрваў, трывогі і страху, мець правільных ворагаў і невядомых прыхільнікаў і ня ведаць, што гэта і азначае — быць лідэрам пакаленьня.

...? — у 50 гадоў напісаць кнігу, якая замест дубовых запытаў «хто вінаваты? » і «што рабіць?» задасьць магічнае і музычнае, такое неістотнае і такое біблійнае, галоўнае для свабоды, вайны і каханьня пытаньне — «як?».

І адказаць як чалавек, які любіць: так, як ты хочаш.

Так, як ты можаш.

Так, як найлепш.




**Юры Дракахруст.**
**Акцэнты Свабоды.**
2009 (PDF)

Перадача «Праскі акцэнт» нарадзілася неўзабаве пасьля пераезду Радыё зь Мюнхэну ў Прагу, і штотыдзень яе ўдзельнікі і аўтары абмяркоўвалі калатню Беларусі паміж Усходам і Захадам, небам і зямлёй, мінулым і будучыняй. Аўтар правёў сотні круглых сталоў, але паміж вокладкамі зьмясьцілася толькі малая частка. Кнігу такога памеру і накалу можна было б выдаваць штогод — пакуль Беларусь жыве.

## Без акцэнту

Дагэтуль пад імем Юр’я Дракахруста ў бібліятэчных каталёгах зарэгістравана толькі адно выданьне: «Лякальна-глябальны нормавы прынцып для палёў альгебраічных лічбаў». (Так называлася дысэртацыя маладога кандыдата фізыка-матэматычных навук, аднаго з заснавальнікаў «Мартыралёгу Беларусі» і БНФ.)

Гутаркі, адабраныя для выданьня, адбыліся ў 2001–2009 гадох. Але гэтая кніга — не пра мінулае, бо калі б усе адказы можна было адшукаць у мінулым, дык сьветам кіравалі б гісторыкі і бібліятэкары.

Дыскусія — гэта мова дэмакратыі, якую скалечанае дзесяцігодзьдзямі несвабоды грамадзтва вучыць як замежную, шукаючы і блытаючы словы, не разумеючы іх сэнсаў, успрымаючы іншы пункт гледжаньня як здраду, а апанэнта — як ворага. Гісторыя ды сучаснасьць таксама сьведчаць, што гэтую мову спрабуюць імітаваць і выкарыстоўваць для цалкам супрацьлеглых мэтаў.

Часам адзінае, што адрозьнівае сапраўднага носьбіта мовы ад імітатара, — гэта акцэнт.

Акцэнт Свабоды.




**Міхась Скобла.**
**Вольная студыя.**
2009 (PDF)

Гэтыя 50 гутарак пра свабоду думаць, ствараць і памятаць у сучаснай Беларусі, якія аўтар сабраў пад адной вокладкай, — толькі дзясятая частка яго даробку на Свабодзе. Інтэлектуальны і эстэтычны фэст — толькі вяршыня дзесяцігадовага радыёцыклю аўтарскіх штонядзельных дыялёгаў з выдатнымі сучасьнікамі. Скарыстайце шанец сустрэцца, падумаць і паспрачацца.

## Quis es? Quis sum?

Каб зрабіць найлепшую ў сьвеце кнігу беларускіх гутарак пачатку XXI стагодзьдзя, трэба:

— нарадзіцца ў цэнтры Эўропы ў другой палове XX (бо калі раней — вы й вашы героі скончыце ў ГУЛАГу ці на вайне, а калі пазьней — бяз вас пройдзе сьвята змаганьня за волю і незалежнасьць);

— атрымаць асалоду ад агульначалавечай спадчыны, але жыць сваёй мовай, сваёй культурай і сваёй гісторыяй (хоць вы й вашы героі ад гэтага ня станеце валадарамі жыцьця тут і цяпер);

— штотыдзень ужо другое дзесяцігодзьдзе, гледзячы суразмоўцу ў вочы, пытацца, казаць і пісаць так, як насамрэч бачыце, разумееце і думаеце (і быць гатовым выпіць цыкуту, якую тут умеюць вырабляць не раўнуючы як у старажытнасьці),

бо толькі ў гутарцы свабодных людзей адказ на вечнае пытаньне:

Quis es? Хто ты?

можа стаць адказам на вечны пошук:

Quis sum? Хто я?




**Юры Дракахруст.**
**Сем худых гадоў.**
2014 (PDF)

Выраз зь Бібліі даў назву гэтай кнізе блогаў (бо што такое Біблія, як ня збор блогаў), якія публікаваліся на сайце svaboda.org ад 2008 да 2014 году. Гэта і хроніка падзеяў, на якія аўтар апэратыўна адгукаўся, а таксама і загадкі беларускай будзённасьці, якія аўтар спрабаваў разгадаць, вызначыць сэнсы і прадбачыць трэнды пераменаў. Рэдкі выпадак — аўтар, кандыдат фізыка-матэматычных навук, падлічыў і напісаў, колькі прадказаньняў спраўдзілася, а колькі яшчэ чакаюць свайго часу. Працэнт трапляньня вас зьдзівіць!

## Без варажбы

Жанр гэтай кнігі Юры Дракахруст вызначыў як «будучыня ў мінулым». Ня менш дакладнай будзе і адваротная формула, мінулае ў будучыні, якое аўтар шукаў у беларускай будзённасьці апошніх сямі гадоў.

Кожнае дасьледаваньне завяршаецца бязьлітасным позіркам у люстэрка рэальнасьці, постскрыптумам «Хто меў рацыю»: 21 раз аўтар, 8 апанэнты, у 34 выпадках вынік яшчэ не вядомы ці невядома, што лічыць вынікам.

Аўтар выпрабоўвае рэчаіснасьць на цэласнасьць як назіральнік, які рухаецца разам з падзеямі і таму можа ігнараваць прынцып няпэўнасьці. Ён не абвяргае прынцып, а ідзе далей за яго.

І тады з-пад клявіятуры матэматыка паводле адукацыі («матэматык ня той, хто любіць матэматыку, а хто ўмее рашаць задачы»), альгебраіста паводле спэцыялізацыі («нуль роўны нулю»), аналітыка паводле прызваньня («вайна — і скачок і вынік эвалюцыі»), раптам зьяўляюцца вызначэньні сына паэта паводле нараджэньня:

«Гісторыю немагчыма сплянаваць», «Няма ніякіх братоў, ёсьць толькі трафэі», «Ніколі не азначае ніколі» і, як прызнаньне рэлятыўнасьці даступнага інструмэнтарыю, самаіранічная выснова: «Сапраўды чорт варожыць».

«Варажыць» — ня толькі адгадваць будучыню ці мінулае, ня толькі здагадвацца і прадказваць, але і, як вучаць слоўнікі, па-майстэрску, падобна чараўніку, працаваць над нечым.

Напрыклад, над гэтай кнігай.




**Сяргей Абламейка.**
**Каліноўскі і палітычнае нараджэньне Беларусі.**
1, 2-е выданьне. 2020 (PDF) (EPUB)

Кіраўнік вызвольнага паўстаньня 1863 году Кастусь Каліноўскі і яго паплечнікі самі выйшлі на паверхню — не магілы, а гісторыі, калі Беларусь пачала набліжацца да бездані. У часе ўрачыстай цырымоніі ў Вільні ў Беларусі вялося шмат дыскусіяў пра Кастуся: наш ці ня наш, герой ці не герой, любіць ці не любіць. Кніга, якая выйшла двума выданьнямі, дае адказ — ясны, поўны, доказны, раз і назаўсёды. Пераканайцеся!

# Імя героя

Можна разгарнуць слоўнік, каб уведаць, хто такі герой: пэрсанаж міту ці легенды, адважны змагар, галоўная дзейная асоба, аб’ект захапленьня і пакланеньня. А можна назваць любімую краіну, і калі гэта Беларусь — вы ведаеце гэтае імя.




**Неверагодны 2020-ы.**
2021 (PDF) (EPUB)

Неймаверны цуд самага фантастычнага лета найноўшай гісторыі Беларусі ўразіў і саміх беларусаў, і астатні сьвет. Што гэта было, чаму, адкуль і куды — на гэтыя пытаньні адказваюць 20 беларускіх інтэлектуалаў, ад Сьвятланы Алексіевіч да Арцёма Шрайбмана. Укладальнік Юры Дракахруст будуе кнігу як пошук ня столькі палітычнага, колькі антрапалягічнага і нацыянальнага вымярэньня «неверагоднага 2020-га». Іншымі словамі — наколькі імаверна было неверагоднае? І будзе.

## Неверагодная імавернасьць 2020-га

Ніяк,
Ніколі,
Нерэальна,
Немагчыма,
Няпраўдападобна,
Сумнеўна,
А раптам,
Бадай што,
Можа быць,
Безумоўна,
Непазьбежна,
А як іначай?
Іначай — ніяк.




**Сяргей Абламейка.**
**Чаму Беларусь не Расея.**
2022 (PDF)

У назьве няма пытальніка, бо гэта кніга не пытаньняў, а адказаў. Гістарыясофская эсэістыка б’е ў звон і трапляе ў цэль, нават калі вы дагэтуль ня чулі хады гісторыі і ня бачылі яе маршрутаў. У кнізе чатыры дзясяткі эсэ, кожнае зьдзіўляе і натхняе якасьцю аргумэнтаў. Нельга цяпер думаць пра будучыню Беларусі, Эўропы і сваю бяз гэтай кнігі.

# Бо

Бо толькі сваё сваё,
Бо толькі сваё можна страціць,
Бо толькі сваё можна знайсьці,
Бо толькі сваё можна абараніць,
Бо толькі сваё можна ахвяраваць,
Бо толькі сваё можна стварыць,
Бо толькі сваё можна аддаць,
Бо толькі сваё можна вярнуць,
Бо толькі сваё можна пражыць,
Бо толькі сваё ня толькі сваё.

- Дуліна ад Барадуліна
- Альбом сямейны
- Начная чытанка – І
- Начная чытанка – 2
- Барды Свабоды
- Сто бардаў Свабоды
- Саўка ды Грышка.
  50 песень праўды
- Саўка ды Грышка.
  І00 песень праўды
- Пакуль ляціць страла
- Малая мэдычная
  энцыкляпэдыя Бахарэвіча
- Гамбурскі рахунак
  Бахарэвіча
- Каляндар Бахарэвіча
- (Не:)вясёлыя карцінкі
- І00 словаў
- Казкі па целефоне




**Рыгор Барадулін.**
**Дуліна ад Барадуліна.**
2004 (PDF)

Показкі, эпіграмы, міні-оды «Свабодзе» ды іншыя бессаромныя жэсты ад самага дасьціпнага паэта Беларусі, у т. л. эсэ «Як беларусы сэксам займаюцца». Бо праўды не заглушыш.

## Афіцыйнае папярэджаньне

Шаноўныя чытачкі й іншыя маральна няўстойлівыя асобы!

Праявіце ўстойлівасьць і не чытайце ў гэтай кнізе старонкі 178–189!

Дарагія бацькі непаўналетніх! Хавайце гэтую кнігу ў недаступным для дзяцей месцы да дасягненьня паўналецьця!

Бедныя інтэрнэт-залежныя! Не распаўсюджвайце ва ўсясьветным сеціве адно згаданыя дванаццаць старонак!

Паважаныя грамадзяне! Не чытайце гэтыя старонкі ўголас у грамадзкім транспарце, са сцэны, падчас дажынак і масавых гуляньняў!

Непадкупныя пракуроры й судзьдзі! Не вырывайце нічога з кантэксту й не судзіце сувора тых, хто ўсё ж будзе чытаць іх уголас!

Вельмішаноўныя чытачы старонак 5–254! Віншуем вас з новай сустрэчай са свабодным паэтам і паэтам свабоды!

Раней Рыгор Барадулін даваў «Свабодзе» сур'ёзныя інтэрвію, пасьля чытаў ля мікрафона мілагучныя вершы, затым пачаў пісаць эсэ на грамадзка значныя і агульначалавечыя тэмы. Але за вясной прыйшло лета 2004 году, і дзядзька Рыгор штодня стаў круціць дуліны ў этэры старым і новым сябрам і знаёмцам, а пасьля агледзеўся й на адным дыханьні паслаў яшчэ паўсотні паветраных пацалункаў журналістам і слухачам «Свабоды».

Мы былі аслупянелі й вось выдалі кнігу — а што рабіць? Паэты, як вядома, не даюць пацалункаў без узаемнай любові, у якой мы расьпісваемся — бяз дулі ў кішэні.




**Вінцэсь Мудроў.**
**Альбом сямейны.**
2007 (PDF)

Дэструктыўная перадача і шкодная кніга, як скардзіліся пільныя слухачы аж у Вашынгтон. Бо як можна сьмяяцца ў час, калі трэба плакаць, як можна гаварыць пра штаны-клёш, калі заробкі такія, што штаны не трымаюцца. Аўтар, віртуоз настальгіі, успамінаў такія забытыя рэаліі савецкага часу, што рабілася страшна зайздросна і хацелася, як напісаў адзін няпільны слухач, хоць бы дзень пажыць у гэтым альбоме. Цяпер гэта магчыма. І яшчэ — зьвярніце ўвагу на зноскі ўнізе кожнай часткі і на паказьнік ў канцы. І пераканаецеся, што «Альбом» не настальгія, а авангард!

# Як Вінцэсь М. разбурыў Савецкі С.

Вінцэсь Мудроў стварыў альбом з рэчаў, якіх няма.

Пошукам страчанага займаецца ўся літаратура. Марсэль Пруст знаходзіў яго праз смак піражнага мадлен, Мудроў — праз цукеркі «падушачкі», Джэймз Джойс аднаўляў ва «Ўлісе» плынь сьвядомасьці аднаго дня, Мудроў сьвядома праслухоўвае плыўкі гук з разблытаных магнітафонных стужак, 10-гадовы Леў Талстой прачынаецца жнівеньскім ранкам у ложку «Дзяцінства», 10-гадовы Мудроў — у «Ложку з панцырнай сеткай». Яны абодва ня хочуць уставаць, толькі над першым гайдаецца абразок анёла, а другі думае, як скруціць бліскучыя сталёвыя шарыкі зь нікеляванай сьпінкі.

Дыстанцыя — неабходная функцыя бачаньня. Пытаньне, аднак, у яе велічыні й ягонай сіле. Некаму не хапае жыцьця, каб пабачыць, што яно прайшло ў люстраным пакоі з крывымі сьценкамі. Нехта прымае за рэальнасьць ружовы туман.

А нехта, нават народжаны ў турме, чуе гукі іншай музыкі, вычытвае сваё ў газэтных абрыўках, сьмяецца з таго, чым ганарацца астатнія, і раптам бачыць самога сябе — каб ужо ніколі не забыцца.

І аказваецца не цаглінай у маналітнай сьцяне, і сьцяна не вытрымлівае.







**Начная чытанка –**
**1: 50 аўтараў з этэру «Начной Свабоды».**
Мультымэдыйны дыск. 2007
**Начная чытанка –**
**2: 50 аўтараў з этэру «Начной Свабоды».**
Мультымэдыйны дыск. 2009

Два мультымэдыйныя дыскі спатрэбіліся, каб зьмясьціць самы інтымны фармат прыгожага пісьменства — аўтарскае чытаньне ўласных вершаў і прозы. Перадача «Начная Свабода» штотыдзень запрашала пісьменьнікаў і пісьменьніц у этэр, і на працягу пяці вечароў яны адказвалі на пытаньні і чыталі свае творы. Укладальнік **Аляксей Знаткевіч** і калегі ў Менску і Празе сабралі разам сто аўтараў-сучасьнікаў. Калі памножыць іх на пяць, атрымаецца бясконцая асалода беларускага прыгожага пісьменства.

## Любіць вушамі

Толькі у сэрцы трывожным пачую...
А хто там ідзе...
Магутны Божа...

Мы ніколі ня чулі гэтыя геніяльныя радкі у аўтарскім выкананьні. Мы ня чулі дыханьня Максіма Багдановіча, ня ведаем інтанацыі Янкі Купалы, нам незнаёмы сьпеўны рытм Натальлі Арсеньневай.

Цуд нараджэньня першага гуку, слова, радка, цуд гарачай крыві, якая пульсуе ў кожным дыху, захоўвае толькі голас аўтара.

Радыё — гэта голас.

Начная Свабода выпраўляе загану мінулых стагодзьдзяў. Перадача, народжаная энэргіяй менскай вясны 2006 году, сабрала на сваіх хвалях вядомыя і маладыя галасы беларускай літаратуры.

Госьці Начной Свабоды назаўжды застануцца такімі, як яны ўпершыню прагучалі ў начным этэры — і так іх будуць чуць і па-за межамі нашага маладога яшчэ стагодзьдзя.

«Начная чытанка» — падарунак ад Радыё Свабода тым, хто ўмее любіць вушамі.

Цяпер гэта можна рабіць ня толькі ўначы.







**Барды Свабоды.**

Мультымэдыйны DVD-дыск. 2010

**Сто бардаў Свабоды.**

Мультымэдыйны DVD-дыск. 2011

https://soundcloud.com/svaboda/sets/sto-bardau-svabody

На першым дыску зьмясьціліся гутаркі і песьні першых 50 удзельнікаў аднайменнай радыёперадачы журналіста, пісьменьніка і барда **Зьмітра Бартосіка**, які кожны тыдзень цягам году сустракаўся ў студыі Свабоды з бардамі з усёй Беларусі. Аднак каб даць адчуваньне маштабу і жанравай разнастайнасьці беларускай гітарнай паэзіі, аднаго году аказалася замала, — так зьявіўся другі дыск, а цяпер уся сотня сабралася ў адным месцы.

## Хор бардаў

Ім нечага не хапае.

Радыё ня радуе, тэлевізар абрыд, кіно ня коціць, інтэрнэт завіс — яны ня хочуць шукаць кампраміс.

Але ў іх ёсьць словы.

Вершы пішуцца пра сябе і сяброў, пра разгадкі сноў, пра выбар і выбары, пра кроў на бруку — але не для друку.

Яны выбіраюць гітару.

Ім усё роўна — канцэрт для двух ці для тысячаў дзьвюх, на лясной паляне ці на майдане, іх дні і ночы не пустая тара — калі ў руках гітара.

Кароткія хвалі не для арый.

Яны сьпяваюць баляды і зонгі, рамансы і рэп, шансон і фольк, але ня оды — так становяцца бардам свабоды.

Музыка іх ад мовы.

Штотыдзень і цэлы год яны йдуць у студыю і бяруць акорд бяз цэнзара і без дырыжора — так нараджаецца свабода хору.







**Лявон Вольскі.**
**Саўка ды Грышка. 50 песень праўды.**
Мультымэдыйны DVD-дыск. 2011

**Лявон Вольскі.**
**Саўка ды Грышка. 100 песень праўды.**
Мультымэдыйны DVD-дыск. 2012

Збор запісаў сатырычнага дуэту паэта, кампазытара, рок-сьпевака Лявона Вольскага з самім сабой, які складаў **Аляксей Знаткевіч**. Немагчыма не засьмяяцца, не задумацца і не падпяваць. Канцэрт працягваецца.

## Дуэт для аднаго

У 2010-м Лявон Вольскі засьпяваў двума галасамі, ніводзін зь якіх ня быў ягоным.

Гэта адбылося роўна праз праз сто гадоў пасьля таго, як Янка Купала занатаваў дзіўную песьню пра двух аніматараў у краіне нуды:

*Саўка ды Грышка ладзілі дуду,*
*Ду-ду-ду-ду, ду-ду-ду-ду, ладзілі дуду.*
*Сільна хацелі весяліць нуду,*
*Ду-ду-ду-ду, ду-ду-ду-ду, ладзілі дуду.*

Прыяцелі вярнуліся, быццам нікуды і не зьнікалі, але ў новай Беларусі дуэт ужо ня змог весяліцца ва ўнісон. Адзін за, другі проціў. Адзін мае пасаду, другі пасадкі. Адлегласьць ад Саўкі да Грышкі як ад дуды да нуды:

*Вы сабе дуйце сваё гоцаца,*
*Толькі пачнеце з другога канца.*

Трэці голас, які дуе ў дуэце, — голас аўтара, які ўздымае штодзённую палітычную трасянку да паэтычнага фальклёру, дае дыстыляцыю формулаў апазыцыі і ўлады і стварае пародыю пародыі — гоцаца.

Што агульнага мае «дуэт для аднаго» Лявона Вольскага зь ядзерным выбухам? Пачуў — позна! Цяпер увесь час слухаць будзеце, го-ца-ца!




**Уладзімер Арлоў.**
**Пакуль ляціць страла.**
2012 (PDF)

Гэта адзіная кніга «Бібліятэкі», дзе прысутнічае гекзамэтар. На шчасьце, ня ўся яна напісаная гэтым памерам, хоць аўтар паэт і мог бы, а толькі прадмова. Бо як іначай прадставіць вечны занятак — пошук прыгажосьці і праўды, які ў гэтай кнізе вядуць чытачы, а аўтар ім дапамагае. Сто адказаў пісьменьніка на пытаньні падчас сустрэчаў у бібліятэках і каля вогнішчаў, выступаў на кватэрах і ва ўнівэрсытэтах — і на Свабодзе.

# Страла Адысэя

Ἄνδρα μοι ἔννεπε, Μοῦσα, πολύτροπον, ὅς μάλα πολλὰ...
Гамэр

Пра мужа мне раскажы, Муза, які жыве ў дарозе
Ад часу, калі сьцяг яго любы чырвоны на белым
Барбар на стужкі ірваў і сьмяяўся, і паэт у гісторыку
Даў клятву: ніколі не адмовіць нікому, хто кліча і хоча
Пачуць зь першых вуснаў праўду пра ўсё, што было
На зямлі гэтай, пра герояў і юдаў яе, пра нядолю і славу,
Пра каханьне і здраду, балі і бітвы, перамогі і страты,
Якія ня страчаны конча, а ёсьць вечным скарбам,
Казной невычэрпнай, пакуль мы шануем і помнім,
І келіх, і меч, і пяро ўздымаем, бо ўсё гэта ёсьць,
Бо было, а, значыць, і будзе, і мова, і сьцяг, і пасад
Між народаў, і тое вясельле апошняе, калі Радзіма,
Як Пэнэлёпа, дасьць лук жаніхам, і той, хто нацягне
Цяціву, мусіць пацэліць стралой праз тузін калец,
І першае зь іх — гэта гонар, другое — адвага,
Трэцяе — мужнасьць, чацьвертае — годнасьць,
Пятае — цьвёрдасьць, а шостае — мудрасьць,
Сёмае — гэта цярплівасьць, а восьмае — хітрасьць,
Дзявятае — шчырасьць, дзясятае ёсьць справядлівасьць,
І адзінаццатае — вернасьць сабе, й таямнічае самае
Дванаццатае — любоў узаемная, якая была, ёсьць і будзе
На берагах Дзьвіны, пад званамі Сафіі, ля Еўфрасіньні
За часам чумы і ў снах імпэратара, на дзікіх палях
І паромах Ля-Маншу, у кавярнях Вільні і гасподах Прагі,
На хвалях свабоды, у ложках каханак і нетрах радаводу
Імёнаў, якія зьмяніліся і якія ніколі ня зьменяцца,
Пакуль ляціць страла кучаравага полацкага Адысэя.




**Альгерд Бахарэвіч.**
**Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча.**
2011 (PDF)

Першапачаткова гэтая антынавуковая эсэістыка прызначалася для вузкага кола дактароў-самавучак, але была разабраная на цытаты, перакладзеная на замежныя мовы і нанесла непапраўную шкоду сумнаму афарызму пра здаровае цела, ў якім здаровы дух — бо ўсё наадварот. Кожны сапраўдны пісьменьнік ніякі не інжынер, а лекар — адкрыйце і выздараўлівайце! Можа, і выжывеце.

## Usie vyzdaraviejem

М-М-Э… — так неразьвітая гартань малпы, як пісаў нямецкі прыматоляг Фр. Энгельс, марудна, але няўхільна перастваралася шляхам мадуляцыі (дыялектыка прыроды!), каб дзяліць гукі на члены:

Бах! Арэві! Ча!

Губы размыкаюцца арганным выбухам, які запаўняе гатычныя скляпеньні паднябеньня, праля-тае верхнім рэгістрам і абрынаецца ў вільготныя альвэолы, каб прапішчаць і чмокнуць, як прыдушаны зьвярок: сьмерць.

Бахарэвіч ведае, дзе ў целе жыве душа.

З гэтымі ведамі ён мог бы працаваць прарокам, але ня любіць, калі б’юць камянямі, начальнікам турмы, але ўсе падапечныя разьбягуцца, вартаўнікам на могілках, але хто ж прызначыць.

Таму ён займаецца тым, што лічыць, колькі дэманаў можа зьмясьціцца на вастрыі піксэля: літара — пёрка, радок — крыло, эсэ — адзінка летальнасьці: эўтаназія.

Яго не цікавіць двухвымерны рэалізм здароўя. Мэдыцына для яго — пачуцьцё, хвароба — сутыкненьне арганізму з часам, цела — гісторыя тэксту.

Маркіз дэ Гарод, доктар лекарскіх навук, прапісваў сваім пацыентам вуаерызм замест традыцыйнага экзарцызму («Чытаньне пісаньня кнігі на сайце svaboda.org як шокавая тэрапія», Bacharevič Studies, 22.01.2010 18:03 – 08.10.2010 21:16). Многія выжылі.

Паказьнік імёнаў гэтай энцыкляпэдыі сам ёсьць энцыкляпэдыяй.

Няпоўнай, але дастатковай. Happy end ужо напісаны.




**Альгерд Бахарэвіч.**
**Гамбурскі рахунак Бахарэвіча.**
2012 (PDF)

У беларускай літаратуры замала скандалаў. Свабодаўскі цыкль пра клясыку і клясыкаў гэты недахоп выправіў кардынальна. Аўтара не абвінавачвалі толькі ў праезьдзе безь білета, а на ўсе астатнія грахі яму і Свабодзе ўказалі шырока і поўна, уключна з канібалізмам і пагрозамі пабіць пры сустрэчы. Гэта моцна парадавала — беларуская кніга, здольная выклікаць такія эмоцыі ў беларусаў, сьведчыла, што ня ўсё яшчэ страчана. І праўда — усё толькі пачыналася! Бо клясыка заўсёды пачынаецца.

# Амаль

У беларускай літаратуры, як і ў кожнага беларуса, дзьве душы. Адна жывая, а другая вечная. Усё астатняе — не літаратура.

Арыстотэль так тлумачыў розьніцу паміж гісторыкам і паэтам: першы апісвае тое, што адбылося, другі — што магло адбыцца. Насамрэч розьніцы амаль няма.

Бахарэвіча цікавіць тое амаль, што паміж імі. Тое, што Купала называў — сьляды магчымасьці магчымай.

Нобэлеўскую прэмію ў год, калі Беларусь стала незалежнай, атрымала раманістка Надын Гордымэр, якая лічыла, што пісаць варта толькі пасьмяротна. Так, быццам абмежаваньні інтэлектуальнай моды, грамадзкай думкі, самацэнзуры не існуюць.

Героі гэтай кнігі так не пісалі амаль ніколі. Суцяшэньнем можа служыць хіба тое, што так амаль ніколі не пісаў ніхто ў сьвеце.

Але чытаюць літаратуру толькі так. Літаратура і ёсьць гэтае амаль.

У «Гамбурскім рахунку» аўтар ператвараецца ў чытача і зноў у пісьменьніка і сам становіцца адным са сваіх герояў. І ад яго не залежыць ужо нічога. Амаль нічога.

Творы свабодных аўтараў прыходзяць да ўсіх, але застаюцца толькі з тымі, хто шукае свабоды. Так, як у гэтай кнізе, пра белліт яшчэ не пісалі.

Амаль ніхто.

Амаль нідзе.

Амаль ніколі.

А больш амаль і ня трэба.




**Альгерд Бахарэвіч.**
**Каляндар Бахарэвіча.**
2014 (PDF)

Скончыўшы з мэдыцынай і літаратурай, аўтар разабраўся з гісторыяй. Кнігу склалі 366 эсэ пра гістарычныя падзеі кожнага дня году. Для яснасьці: трыста шэсьцьдзесят шэсьць! Гэтая кніга стваралася ў Гамбургу і Менску, Уроцлаве і Вісьбю, у цягніках і гатэлях, на выспах і вуліцах, яна рухалася наперад няўхільна, быццам стрэлка гадзіньніка, і пісалася, як мастацкае палатно, каб урэшце загучаць, як музыка.

## Беражыце пальцы

Пасьля сканчэньня часу на зямлі душы, як вядома, трапляюць на экзамэн па беларускай літаратуры ў чысьцец. Прагульваў урокі белліту — глыні кіпучай смалы, пісала ў фэйсбуку на роднай мове — калі ласка, амброзія-марозія. Але нацыя хранічных троечнікаў думае праскочыць на шармака. Ну-ну.

Вядома, не зьвяры там працуюць, і надзея ёсьць. Вы нават трымаеце яе ў руках.

*Calendarium* па-лацінску азначае даўгавую кнігу — трэба ўносіць працэнты за пазыку.

Альгерд Бахарэвіч уносіць працэнты за ўсіх, каму вырываюць зуб з анэстэзіяй, бо піша пра яе вынаходніка (хто забыўся — Горас Уэлз, чый партрэт мусіць вісець ува ўсіх стаматалягічных кабінэтах сьвету). Хоць ніхто з сотні расстраляных ня вернецца з праклятай менскай ночы на 30 кастрычніка 1937-га, ад нэкралёгу па Савецкім Саюзе адтае вечная мерзлата ГУЛАГу; ён згадвае фантаста Айзэка Азімава не таму, што зямляк і аўтар бэстсэлераў, а таму, што той ведаў, дзе кнопка, якая ўключае ў чалавеку чалавека.

Калі гэты люстраны шар бразнуць аб падлогу, ён выбухне і разьляціцца на 172 366 аскепкаў (столькі ў ім словаў) — гуляйце, толькі беражыце пальцы. Яны патрэбныя, каб стварыць сваю асабістую даўгавую кнігу — кожны мае права на вечнасьць.

І калі на апошнім экзамэне на чалавечнасьць анёлы спытаюць, а ці ведаеце вы?.. — вы будзеце ведаць.




**(НЕ:)вясёлыя карцінкі.**
2014 (PDF)

Кожны будні дзень цягам пяці гадоў публікаваліся сатырычныя малюнкі мастака ДэЛёс, у якіх паказвалася беларуская (і ня толькі) рэальнасьць без касмэтыкі і бяз пафасу. У альбоме, які сабраў найлепшыя карцінкі, таямнічы мастак сустракаецца з загадкавым паэтам ДаСьлёз, і разам яны запрашаюць у камічную опэру жыцьця.

## Жыве musculus zygomaticus major!

Мы, Бібліятэка Свабоды,

— прызнаючы, што шчасьця не бывае зашмат,

— адзначаючы, што прыматолягі адносяць пачатак усьмешкі на 30 мільёнаў гадоў назад,

— беручы пад увагу, што *musculus zygomaticus major*, адказны за падцягваньне куткоў вуснаў уверх і ў бакі, скарачаецца ў Беларусі ня так часта, як хацелася б,

— канстатуючы, што суседзяў і начальства не выбіраюць, а даюцца яны за грахі нашы,

— маючы на мэце ўзьняць усё, што апускаецца, пашырыць усё, што звужаецца, павялічыць усё, што памяншаецца, бо мы за мір,

Пастанаўляем:

— неадкладна падвысіць тонус *musculus zygomaticus major* зьлева, дзеля чаго выбраць зь дзьвюх тысячаў карцінак на сайце svaboda.org такія, ад якіх гэты мускул пачне скарачацца-расьцягацца аж да левага вуха,

— неадкладна падвысіць тонус *musculus zygomaticus major* справа, дзеля чаго напісаць вершы такія, ад якіх гэты мускул пачне скарачацца-расьцягацца аж да правага вуха,

— ускласьці выкананьне гэтай пастановы на візуальнага фітнэс-трэнэра ДэЛёс і аральнага фітнэс-трэнэра ДаСьлёз,

— дзеля папярэджаньня масавых вывіхаў сківіцы ў наступныя 30 мільёнаў гадоў абмежаваць колькасьць асобнікаў альбома, але больш нікога нічым не абмяжоўваць.

І будзе нам тое, чаго не бывае зашмат.




**100 словаў.**
2017 (PDF)

Ляканізм ніколі не лічыўся ўласьцівасьцю беларускага прыгожага пісьменства. Прынамсі, да гэтай кнігі. Укладальнік анталёгіі найлепшых кароткіх тэкстаў **Ян Максімюк** вёў аднайменную рубрыку на сайце Свабоды ў 2014–2016 гг. Народ палюбіў фармат і слаў свае соткі нон-стоп, але суровы рэдактар адабраў для кнігі толькі 300. Як кажуць у народзе, brevis bona est. Далучыцеся да гэтага народу!

# Эвангельле ад Яна

Аказваецца,

Каб адрозьніць каханьне ад любові, паэзію ад пустаты, свабоду ад спакусы,

Каб падаць і падымацца, даравац і прасіць прабачэньня, адчайвацца і зноў верыць,

Каб вандраваць вакол сьвету, вяртацца і знаходзіць сусьвет у сабе,

Каб успомніць забытае, пабачыць схаванае і знайсьці згубленае,

Каб расказаць, як мыюць ногі блудніцам, выганяюць гандляроў з храму і ператвараюць ваду ў віно,

Каб біць у сэрца мячом,

Дастаткова ста словаў.

Так вучыць Ян.




## **Алесь Пілецкі.**
## **Казкі па целефоне.**

2019 (PDF)

Усё ж, усё ж прызнаем — хоць па тэлефоне робяць шмат карысных паслугаў, гэтая кніга павінна была называцца *«#давай, пака»*, як сканчаў кожны свой культавы пост у фэйсбуку **аўтар.** На прэзэнтацыі ў Менску да яго падышоў тагачасны пасол Расеі і папрасіў асобнік, але аўтар толькі разьвёў рукамі — ужо няма, давай, пака. Жанр кнігі быў вызначаны як гіпэррэалізм, стыль як інтым па тэлефоне, мова як піўны слэнг, а галоўны пэрсанаж як орган, які как хаціт так і паўстае ўва ўсёй сваёй паўнаце. Гэтая кніга яшчэ чакае свайго ўвасабленьня як анімацыя, як опэра і, магчыма, як балет. Перачытайце і паспрабуйце!

# Страх навыварат

Гэтая кніга мяняе страх на сьмех, а сьмех мяняе ўсё: тайна аказваецца пшыкам, улада — цыркам, цар — блазнам. Пагроза не зьнікае, зьнікае здранцьвеньне, якое ёсьць першым і галоўным прадуктам страху.

Гэтая кніга ня толькі пра «іх», але й пра нас, бо сьмяяцца заўсёды трэба і зь сябе саміх.

Гэтая кніга гамэрычнага стылю і мовы, якая карае і мілуе адначасна. Ніхто не абскардзіць усьмешку.

Гэтая кніга чытаецца як «Энэіда» эпохі фэйсбуку, і не зусім навыварат. Гэта наш час навыварат.

Гісторыю ўжо можна вывучаць з гэтай кнігі, але гісторыя яшчэ пішацца, і гэты сьмех не апошні — вам яшчэ абавязкова пазвоняць!

- Слоўнік Свабоды
- Жывая мова
- Па-беларуску зь Вінцуком Вячоркам
- Не сьмяшыце мае прыназоўнікі




**Слоўнік Свабоды:**
**XX стагодзьдзе ў беларускай мове.**
2012 (PDF)

Увесь 1999 год штодня ў этэры Свабоды гучала міні-эсэ пра адно слова, якое аўтары лічылі важным для мінулага стагодзьдзя. Да дзесяцігодзьдзя «Бібліятэкі» «Слоўнік» выйшаў асобнай кнігай; аўтары дапісалі па адным слове, якое падаецца ім істотным ужо ў XXI стагодзьдзі. У выданьне ўключана ўступнае слова да першай публікацыі ў 2000 годзе ў часопісе ARCHE, якое напісаў Васіль Быкаў.

# Слова слова

Восеньню 1998-га раптам адчулася, што стагодзьдзе на сконе.

Мы вырашылі разьвітацца зь мінулым па адным слове ў дзень. 1 студзеня 1999 году прагучала эсэ пра слова «Бог»; 31 сьнежня — пра слова «Слова». Адна старая кніжка сьцьвярджае, што гэта тоесныя рэчы.

Тэкст вызначае кантэкст. «Слоўнік» завяршаў гадзіну жорсткага інфармацыйнага этэру. Перад гэтым гучалі рэпартажы з дэманстрацыяў, мітынгаў, судоў, паведамленьні пра галадоўкі, страйкі, звальненьні, пабіцьцё. З праграмы зьніклі інтэрвію Генадзя Карпенкі, заявы Юр'я Захаранкі, тлумачэньні Віктара Ганчара — замест іх пачалі гаварыць маці і жонкі. Ці ўдовы?

Словы вытанчыліся да свайго ценю. Кожны пэнсіянэр атрымліваў мільёны, але ніхто ня стаў мільянэрам; раскалолася найбуйнейшае імя апазыцыі — бээнэф; 21 ліпеня страціла сэнс слова «прэзыдэнт».

У апошні дзень году мы прачыталі ў этэры ўсе 365 словаў запар, гэта заняло менш за шэсьць хвілін — сэкунда на слова. Чэскі гукаапэратар пытаўся, адкуль мы так добра ведаем гісторыю яго шматпакутнай радзімы. Нельга жыць ува Ўсходняй Эўропе і ня быць крыху нападпітку, ня ў лад адказвалі мы.

Кожны выпуск «Слоўніка» пачынаўся фразай «слова на дзень, для памяці і для роздуму».

Ня ведаю, што да гэтага можна дадаць.




**Жывая мова.**

2013 (PDF)

Здаецца, гэта адзіны выпадак у Беларусі, калі вокладка кнігі стала помнікам. На магіле аўтара «Жывой мовы» **Юрася Бушлякова** на Паўночных могілках у Менску стаіць вялікая гранітная кніга, якая паўтарае яго выдадзеную ў «Бібліятэцы Свабоды» кнігу. **Юрась Бушлякоў** працаваў над ёй да апошніх дзён, але сам пабачыць не пасьпеў. Гэта калекцыя кароткіх практычных эсэ пра тое, як гаварыць і пісаць па-беларуску правільна і прыгожа. На працягу сваёй рэдактарскай працы на Радыё Свабода аўтар выяўляў складаныя, спрэчныя ці памылковыя моманты ў жывой мове, аналізаваў іх і даваў парады, якія склалі цыкль радыёперадачаў і ляглі ў аснову гэтай кнігі.

## Закаханы ў мову

Пісаць жывую кнігу — такое самае шчасьце, як кахаць і быць каханым.

Юрась любоўна ўдасканальваў свой тэкст да апошніх дзён жыцьця: удакладняў фармулёўкі, шукаў лепшыя прыклады, імкнуўся да празрыстасьці, лягічнасьці, нарматыўнасьці, якая дасягальная бадай толькі ў матэматыцы.

Гэтае імкненьне ператварала яго моўныя парады ў дыямэнты, а гутаркі ў этэры ў пэрліны жанру пэдагагічнага эсэ:

*«Ці памятаем мы пра дзяўчат і дзяўчатак?»* — гэтак пачынаецца размова пра множны лік гэтых назоўнікаў, затым ідзе прызнаньне з прыхаванай усьмешкай: *«На жаль, не заўжды і ня кожны»*, і сканчаецца эсэ гэтак жа незабыўна: *«Дзяўчынка чытае часопіс для дзяўчатак, дзяўчына ідзе насустрач дзяўчатам».*

Як вока сваё глядзеў Юрась мову.

Бездакорна гучаў у этэры, надаючы інтэлігентную моўную абалонку сухім навінам, прадстаўляючы драматычныя рэпартажы, задаючы пытаньні суразмоўцам. Далікатна папраўляў чужыя памылкі, уважліва выслухоўваў аргумэнты апанэнтаў, не настойваў на сваёй манаполіі, але адстойваў сваё бачаньне. І, галоўнае, пісаў і гаварыў па-беларуску як жыў, як дыхаў, як кахаў.

Узаемна.




**Вінцук Вячорка.**
**Па-беларуску зь Вінцуком Вячоркам.**
2016 (PDF)

Пускацца ў плаваньне па акіяне мовы можна і аднаму, але лепш з надзейным і спрактыкаваным лёцманам. Жывая практыка і прыгажосьць, якія грунтуюцца на навуковым моваазнаўчым падмурку, спалучаюцца тут з эканомнай лёгкасьцю выкладаньня і тонкім філялягічным густам аўтара, чыё імя заслужана значыцца як частка загалоўка — з суб’екта аўтарстваператварылася ў суб’ект мовы, сталася яе часткай. Ці аб’ектам — дакладна ведае толькі ён сам, а вы можаце ўдакладаніць на інтэрактыўных плятформах Свабоды, прысьвечаных мове.

## Гамлет

У век інтэрнэту,
У эпоху глябалізацыі,
У эру перакладчыкаў Google,
Калі аўтакарэктары замянілі слоўнікі
І нават Бог стаў дыгітальным,
Навошта ведаць сваю мову?
Няўжо, каб быць самім сабой?
Няўжо, каб быць?




**Вінцук Вячорка.**
**Не сьмяшыце мае прыназоўнікі.**
2017 (PDF)

Хто ведае паходжаньне гэтай назвы, прачытаўшы кнігу, зразумее, што гэта не парафраз пагрозы аднаго звар’яцелага дыктатара, а адказ яму. Нашы прыназоўнікі мацнейшыя за вашы «іскандэры». **Аўтар** распавядае, як стратэгічна трымаць абарону свайго, як прыгожа гаварыць дома, у краме, на мітынгу, у дарозе, каб родная мова жыла ўсюды і ня толькі тактычна. Гэта першая кніга «Бібліятэкі», зробленая на падставе відэаперадачаў — нават Францішак Скарына быў бы ўражаны.

## Супрацьракетная абарона

Каб напісаць гэтую кнігу, трэба проста ведаць астраномію, сацыялёгію, матэматыку, паліталёгію, дзяржаўнае будаўніцтва, замежныя адносіны, канстытуцыйнае права, фінансавы лексыкон, дзяржаўныя стандарты, гандлёвыя маркі, міталёгію, літаратуру, паэзію, музыкалёгію, фальклёр, багаслоўе, псыхалёгію, астралёгію, філязофію, лаціну, арамэйскую, славянскія, германскія, раманскія, фіна-вугорскія мовы, дыялекты свае і суседзяў, жаргон, выбарчае заканадаўства, археалёгію, адміністрацыйны кодэкс, грашовыя сыстэмы, рок-музыку, кампутарную тэрміналёгію, інтэрнэт-слэнг, вайсковы статут, канцылярыт, эстэтыку, батаніку, іхтыялёгію, геаграфію, гісторыю ды іншыя нацыянальныя навукі, а таксама чытаць лекцыі, выдаваць слоўнікі, складаць падручнікі, ствараць нефармальныя рухі, узначальваць партыі, весьці мітынгі, сядзець за кратамі, прадстаўляць сваю краіну на міжнародных форумах — іншымі словамі, жыць па-беларуску.

Каб прачытаць гэтую кнігу, трэба проста яе разгарнуць — бо загарнуць ужо немагчыма.

- Энцыклапэдыя
- Дапаможнік
- Манаграфія
- Даведнік
- Эсэ
- Вянок




**Уладзімер Арлоў.**
**Імёны Свабоды.**

1, 2, 3, 4, 5-е выданьне. 2007–2022 (PDF)

Анталёгія партрэтаў герояў беларускай гісторыі, вядомых і невядомых — ад лідэраў паўстаньняў XVIII стагодзьдзя да палітвязьняў стагодзьдзя XXI. Кніга — энцыкляпэдычны дапаможнік для напісаньня раманаў, здыманьня фільмаў, абароны дысэртацыяў, зьмены назваў гарадоў, плошчаў і межаў.

## Энцыкляпэдыя любові

Гэта ня кніга мёртвых, хоць яе складаюць лёсы людзей, якіх ужо няма сярод жывых.

Гэта не дапаможнік у перайменаваньні беларускіх вуліцаў, плошчаў і гарадоў, хоць гэтыя імёны заменяць на шыльдах прозьвішчы камуністычных вампіраў і імпэрскіх пярэваратняў.

Гэта не храналягічны даведнік, хоць названыя сотні імёнаў, абраных аўтарам з нацыянальнага пантэону XVIII–XXI стагодзьдзяў.

Гэта не навуковая манаграфія, хоць тут уводзіцца новая пэрыядызацыя нацыянальна-вызвольнага руху, распрацаваныя крытэры, зробленая клясыфікацыя.

Гэта не архіўнае дасьледаваньне, хоць даты, месцы і падзеі выверананыя, а многія факты знойдзеныя й апублікаваныя ўпершыню.

Гэта не дакумэнтальная проза і не гістарычная паэзія, хоць кожны разьдзел чытаецца як маланка і ўражвае як раман.

Гэта энцыкляпэдыя любові да радзімы, волі й незалежнасьці.

Гэта імёны, якія будуць жыць, пакуль жыве Беларусь.

Гэта вянок нашай свабоды.




## Лісты на Свабоду.

2014 (PDF)

Выбраныя старонкі радыёперадачы «Паштовая скрынка 111», якую два дзесяцігодзьдзі вёў **Валянцін Жданко**. Першая зь дзьвюх кніг, выпушчаных да 60-годзьдзя Радыё Свабода, якія складаюць галасы слухачоў — тых, дзеля каго працуе Свабода.

## Адрас без двукосься

Чаму пішуць лісты на Свабоду?

Бо:

«...падчас слуханьня Свабоды я адчуваю сябе па-сапраўднаму свабодным чалавекам»

«...хачу атрымаць кнігу С. Дубаўца „Як?“, каб зь яе дапамогай выхоўваць сваіх бацькоў і асабліва — дзядоў. Яе тэксты з маіх вуснаў яны ўжо будуць слухаць напэўна!»

«...я ўкраінец, але дзякуючы беларускай „Свабодзе“, слухаючы вас, вывучыў беларускую мову. Вашы перадачы мне вельмі падабаюцца, яны надзвычай цікавыя. Нават цікавейшыя за футбольны чэмпіянат сьвету. Таму я нават падчас сусьветнага футбольнага першынства слухаў вас штодня і ўвечары, і раніцай»

І ёсьць яшчэ адна важкая прычына, чаму слухачы бяруць пяро і аркуш паперы, выводзяць адрас Свабоды і нясуць лісты да паштовай скрыні — таму што іх чытае Валянцін Жданко.

Чытае ўсе, выбірае самае важнае, сапраўды перажытае і набалелае, што будзе цікава розным людзям у розных кутках Беларусі. Словы аўтараў гучаць у этэры ягоным роўным, ясным, выразным голасам — і гэта стварае адчуваньне асабістай блізкасьці і даверу.

Кожны ліст — выхад чалавека на людзі ў шырокі сьвет.

Шмат для каго гэты сьвет гаворыць непаўторным голасам Валянціна Жданко.

Чакаем новых допісаў. Адрас можна пісаць без двукосься.




**Лісты пра Свабоду.**

2014 (PDF)

У другой кнізе, падрыхтаванай да 60-годзьдзя Беларускай службы, слухачы выказваюцца пра ролю і месца Радыё Свабода ў сваім жыцьці.
З тысячаў лістоў **Валянцін Жданко** адабраў для гэтай калекцыі некалькі сотняў галасоў, ад якіх можна заплакаць, засьмяяцца, а можа і загарэцца папера.

## Патрэба душы

Радыё Надзея, Радыё Памяць, Радыё Праўда, Радыё Вера, Радыё Сябар, Радыё Воля, Радыё Будучыня, Радыё Гонар, Радыё Жыцьцё, Радыё Мова, Радыё Гісторыя, Радыё Адукацыя, Радыё Сьвет, Радыё Асалода, Радыё Неабходнасьць, Радыё Шчырасьць, Радыё Падарожжа, Радыё Альтэрнатыва, Радыё Дапамога, Радыё Давер, Радыё Годнасьць, Радыё Задавальненьне, Радыё Выбар, Радыё Радасьць, Радыё Паветра, Радыё Крыніца, Радыё Аддушына, Радыё Бескарысьлівасьць, Радыё Цікавасьць, Радыё Мужнасьць, Радыё Абуджэньне, Радыё Падарунак, Радыё Прыемнасьць, Радыё Ўдзячнасьць, Радыё Разнастайнасьць, Радыё Павага, Радыё Званочак, Радыё Спагада, Радыё Сонца, Радыё Адвага, Радыё Бібліятэка, Радыё Аб'ектыўнасьць, Радыё Шчупак, Радыё Плён, Радыё Сьвятло, Радыё Ўсьмешка, Радыё Прафэсійнасьць, Радыё Змаганьне, Радыё Захапленьне, Радыё Роднасьць, Радыё Натхненьне, Радыё Знаходка, Радыё Сумленьне, Радыё Падтрымка, Радыё Сустрэча, Радыё Тэатар, Радыё Зрок, Радыё Палёгка, Радыё Веды, Радыё Вызваленьне.

У гэтым сьпісе, складзеным з прыхільных словаў слухачоў, роўна 60 ацэнак, столькі, колькі гадоў Свабодзе.

Патрэбай душы назваў Васіль Быкаў слуханьне Свабоды.

Вы — наша Нобэлеўская прэмія.

- Аўтары
- Укладальнікі
- Карэктары
- Ґукарэжысэры
- Мастакі
- Друкары
- Бібліятэкар

## Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе. 2002–2022

### Выданьні:

Верш на свабоду
Дарога праз Курапаты
Poems on Liberty
Быкаў на Свабодзе
Быкаў на Свабодзе. Аўдыёдыск
Дуліна ад Барадуліна
Прыгоды АРА ў Беларусі
Быкаў на Свабодзе. 2-е выд.
Вострая Брама
Беларуская Атлянтыда. Кніга першая
Плошча
Альбом сямейны
Начная чытанка – 1. DVD-дыск
Імёны Свабоды
Дарога
Мой шыболет
Начная чытанка – 2. DVD-дыск
Адзін дзень палітвязьня (1996–2008)
Акцэнты Свабоды
Як?
Вольная студыя
Барды Свабоды
Доўгая дарога дадому. DVD-дыск
Беларуская Атлянтыда. Кніга другая
Сто бардаў Свабоды. DVD-дыск
Птушкі пералётныя
Галасы салідарнасьці. DVD-дыск

Сто адрасоў свабоды
Саўка ды Грышка. DVD-дыск
Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча
Сьлед матылька
Адзін дзень палітвязьня (2009–2011)
Пакуль ляціць страла
Імёны Свабоды. 2-е выд.
Майстроўня
Слоўнік Свабоды
Саўка ды Грышка. 100 песень праўды. DVD-дыск
Гамбурскі рахунак Бахарэвіча
Справа Бяляцкага
Турма і здароўе
Хто ўзарваў менскае мэтро?
Жывая мова
Дзевяноста першы
108 дзён і начэй у засьценках КДБ
Лісты на Свабоду
Лісты пра Свабоду
Каляндар Бахарэвіча
Жыцьцё пасьля раку
Сем худых гадоў
Дзевяноста чацьверты
Імёны Свабоды. 3-е выд.
(НЕ:) вясёлыя карцінкі
Мой Картаген
Дзевяноста пяты
Сьвятлана Алексіевіч на Свабодзе
Па-беларуску зь Вінцуком Вячоркам
Дзевяноста першы. 2-е выд.
Светлана Алексиевич на Свабодзе
Быў у пана верабейка гаварушчы...

100 словаў
Не сьмяшыце мае прыназоўнікі
Дзевяноста другі
Высьпятак ад Скарыны
Дарога. 2-е выд.
Падарожжа ў БНР
Нечаканы Скарына
Турма, мужчына і жанчына
Дзевяноста трэці
Клініка кітайскага дантыста
Сьвятлана Алексіевіч. 100 цытатаў на Свабодзе
Тантамарэскі
Казкі па целефоне
Каліноўскі і палітычнае нараджэньне Беларусі
Забойства ў цэнтры Эўропы
Спадар Свабода
Каліноўскі на Свабодзе
Каліноўскі і палітычнае нараджэньне Беларусі. 2-е выд.
Гаворыць Радыё Вызваленьне
Імёны Свабоды. 4-е выд.
Невядомы Менск. Кніга першая
Дзевяноста шосты
Галасы Беларусі – 2020
Неверагодны 2020-ы
Невядомы Менск. Кніга другая
Галасы Беларусі – 2021
Станіслаў Шушкевіч на Свабодзе
Чаму Беларусь не Расея
Забіць упалмінзага
Алесь Бяляцкі на Свабодзе
Галасы Беларусі – 2022

## Аўдыёкнігі

Верш на Свабоду
Галасы салідарнасьці.
Мультымэдыйны DVD-дыск
Неверагодны 2020-ы
Сяргей Абламейка. Каліноўскі і палітычнае нараджэньне Беларусі
Уладзімер Арлоў. Пакуль ляціць страла
Уладзімер Арлоў. Імёны Свабоды
Рыгор Барадулін. Дуліна ад Барадуліна
Зьміцер Бартосік. Клініка кітайскага дантыста
Юрась Бушлякоў. Жывая мова
Частка 1 (чытае аўтар)
Юрась Бушлякоў. Жывая мова
Частка 2 (чытае Алена Ціхановіч)
Васіль Быкаў. Доўгая дарога дадому
Сяргей Дубавец. Вострая Брама
Сяргей Дубавец. Майстроўня
Гісторыя аднаго цуду.
Валер Каліноўскі. Справа Бяляцкага
Аляксандар Лукашук. Сьлед Матылька.
Освальд у Менску
Аляксандар Лукашук. Прыгоды АРА Ў Беларусі
Анатоль Лябедзька. 108 дзён і начэй у засьценках КДБ. Дзёньнік палітычнага закладніка. Фрагмэнты
Вінцэсь Мудроў. Альбом сямейны
Галіна Руднік. Птушкі пералётныя
Пётра Садоўскі. Мой шыболет
Сяргей Шупа. Падарожжа ў БНР

## Аўтары і ўкладальнікі:

Сяргей Абламейка
Валянціна Аксак
Сьвятлана Алексіевіч
Уладзімер Арлоў
Сяргей Астраўцоў
Юры Бандажэўскі
Рыгор Барадулін
Зьміцер Бартосік
Альгерд Бахарэвіч
Юрась Бушлякоў
Васіль Быкаў
Лявон Вольскі
Вінцук Вячорка
Дзьмітры Гурневіч
Алег Грузьдзіловіч
Юры Дракахруст
Сяргей Дубавец
Валянцін Жданко
Аляксей Знаткевіч
Валер Каліноўскі
Аляксандар Лукашук
Анатоль Лябедзька
Сяргей Навумчык
Ян Максімюк
Вінцэсь Мудроў
Алесь Пілецкі
Вячаслаў Ракіцкі
Галіна Руднік
Вера Рыч
Пётра Садоўскі

Міхась Скобла
Ганна Соўсь
Алена Струвэ
Івонка Сурвіла
Аляксандар Уліцёнак
Сяргей Шупа

## Рэдактары:

Уладзімер Арлоў
Багдан Андрусышын
Аляўціна Вячорка
Вінцук Вячорка
Юры Дракахруст
Сяргей Дубавец
Аляксей Знаткевіч
Валянцін Жданко
Аляксандар Лукашук
Аляксандра Макавік
Сяргей Навумчык
Алена Радкевіч
Ганна Соўсь
Алена Струвэ
Віталь Тарас
Алена Ціхановіч
Сяргей Шупа

## Карэктары:

Мікола Раманоўскі
Марыня Сідаровіч
Сяргей Шупа

## Гукарэжысэры:

Анатоль Бублікаў
Зьміцер Васількоў
Віталь Рачкоўскі
Уладзімер Сакульскі

Сьпіс няпоўны. Імёны ўсіх стваральнікаў «Бібліятэкі» будуць названыя, калі ў Беларусі за гэта будуць не караць, а ўзнагароджваць.

## Бібліятэка, якая адкрыта заўсёды

Кнігу піша адзін, бібліятэку ствараюць разам. Радыёперадачы, гадавыя і тэматычныя цыклі прыдумлялі, рабілі, ператваралі ў дыгітальныя файлы і папяровыя кнігі дзясяткі калег.

Бібліятэкар шкадуе, што празь небясьпеку ня можа назваць усіх сяброў «Бібліятэкі», якія дапамагалі надрукаваць, арганізаваць прэзэнтацыі, разаслаць кнігі і дыскі па бібліятэках, клюбоўнях, унівэрсытэтах і хатніх адрасах у Беларусі, Эўропе і Амэрыцы.

Бібліятэкар выказвае ўдзячнасьць Беларускаму ПЭНу, Саюзу беларускіх пісьменьнікаў, Таварыству вольных літаратараў, Беларускай асацыяцыі журналістаў, журы незалежных конкурсаў, якія ганаравалі аўтараў і выданьні «Бібліятэкі» прэміямі і ўзнагародамі.

Бібліятэкар лічыць, што кожная кніга ня меншая за ўсю бібліятэку, але і бібліятэка ня меншая. Што чытачоў менш, чым пісьменьнікаў, бо чалавеку трэба больш за адну кнігу. Што на пытаньне, навошта радыё выдае кнігі, лепш за ўсё адказвае Францішак Скарына, які паўтысячы гадоў таму «во славном великом месте Празском» тлумачыў мэту свайго друкарства: «Богу ко чти и людем посполитым к доброму научению».

Бо кожны чалавек — гэта бібліятэка. Кожная бібліятэка, нават у турме, — бібліятэка свабоды.

*Аляксандар Лукашук,*
*бібліятэкар Свабоды*

## Пра аўтара

Аляксандар Лукашук пачаў супрацоўнічаць з Радыё Свабода ў 1990, у 1993 далучыўся да рэдакцыі ў Мюнхэне, з 1998 — дырэктар Беларускай службы, у 2004–2006 узначальваў Радыё Свабодны Афганістан, у 2007 выконваў абавязкі галоўнага рэдактара РСЭ/РС. У 2002 заснаваў «Бібліятэку Свабоды».

Аўтар дакумэнтальных фільмаў і кніг, ляўрэат беларускіх і міжнародных журналісцкіх і літаратурных прэміяў. Бібліятэкар Свабоды.

## Summary

"The Wreath of Liberty" is a guide to some ninety publications produced by Radio Free Europe/ Radio Liberty's Belarus Service from 2002 to 2022. These publications are available at the US Library of Congress as well as in libraries in Belarus and across Europe. They can also be assessed online at svaboda.org as well as in various digital libraries.

Liberty Library has been supported by RFE/RL, the NED, NGO "Friends of Liberty" and others. As founder of Liberty Library, journalist and author Alexander Lukashuk bears the honorary title of Liberty Librarian. He is  the long-time director of RFE/RL's Belarus Service, and has won numerous awards for his non-fiction and original documentaries.